2 кастрычніка 2015 | № 37 (454)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Гульня ў «веру — не веру»

стар. 4

ISSN 2218-2144









# «Нам такая дэмакратыя з гвалтам не трэба!»

**Ад выступу кіраўніка Беларусі ў ААН мы чакалі нечага новага. Дарэмна**



Сяргей ПУЛЬША

Здавалася, падчас «замірэння з Захадам» ягоная ваяўнічая рыторыка магла быць сцішаная. Падчас электаральнай кампаніі ён мусіў стрымацца ад рэзкіх выпадаў у бок «заходніх дэмакратый». Аднак…

«Навошта забілі прэзідэнта Ірака?.. Пачалі з Туніса і скончылі Лівіяй. Сцэнар той жа. Укрыжавалі прэзідэнта Кадафі, знішчыўшы дзяржаву… Спадары, можа быць, хопіць? Не. Ірванулі ў Сірыю. Паўстае пытанне: навошта? Навошта вы забіваеце людзей? Навошта зрынаць дзеючага прэзідэнта?»; «У выніку знешняга ўмяшання, экспарту «каляровых» рэвалюцый і штучнай змены рэжымаў стабільныя перш за ўсё краіны пагрузіліся ў хаос і анархію. Гэта ўсё прыкрываецца дэмакратыяй. Замест абяцанай дэмакратыі і росквіту людзі ў гэтых краінах перажываюць жудасныя пакуты і вымушаныя ратавацца ўцёкамі»; «Прыкрываючыся лозунгам правоў чалавека, апраўдваюцца звяржэнне ўрадаў, разбурэнне дзяржаў і вайны за рэсурсы. Насаджаюцца метады хаосу і анархіі»; «На працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў мы мэтанакіравана будавалі суверэнную дзяржаву з сацыяльна арыентаванай эканомікай… З поўнай упэўненасцю магу запэўніць усіх, што анархіі, бязмежжу і гвалту ніколі не будзе месца на беларускай зямлі — ні пад якімі лозунгамі, у тым ліку дэмакратыі», — запэўніў беларускі правадыр.

Вось найбольш важныя вытрымкі з ягоных спічоў у ААН. Што можна сказаць з гэтай нагоды?

Найперш, Аляксандр Рыгоравіч дагэтуль напужаны «каляровымі рэвалюцыямі». Прычым, свядома ці несвядома, але галоўную небяспеку ён бачыць у тым, што «зрынуць дзеючага прэзідэнта». Менавіта за гэтым, па ягоных словах, наступае хаос, анархія і хвалі бежанцаў. Канешне, наўпрост гэта даказваецца на прыкладах Лівіі, Сірыі, Іраку і гэтак далей.

А ці насамрэч «хаос і анархія» — гэта следства «каляровых рэвалюцый»? Чаму не ўзяць у якасці прыкладу «каляровых рэвалюцый», напрыклад, Сербію? Канешне, зрынуты Мілошавіч быў добрым сябрам Аляксандра Рыгоравіча, але сённяшні сербскі кіраўнік — Таміслаў Нікаліч — не меншы сябра Лукашэнкі.

Кіргізы пасля «рэвалюцыі цюльпанаў» не скажу што прыўкрасна, але худа-бедна жывуць без асеўшага ў Мінску Бакіева і ягонай сям'і. Краіна нават стала паўнавартасным сябрам нашага ЕАЭС. І, заўважце, без «грамадзянскай вайны».

Альбо ўзяць Грузію. Ці атрымалі хаос і анархію грузіны ў выніку «рэвалюцыі ружаў»? Ці тую ж Украіну, дзе «каляровыя рэвалюцыі» праходзілі аж двойчы?

«Хаос і анархія», па выразе Лукашэнкі, у гэтых краінах узніклі далёка не як следства «каляровых рэвалюцый». Ва Украіне пасля «аранжавай рэвалюцыі» 2004 года ўсё было ціха-мірна, і Юшчанка таксама быў сябрам беларускага правадыра. Хаос і анархія ўзніклі, «дзякуючы» вонкавым умяшальніцтвам з боку Расіі. Каб не дзеянні «вялікага брата», які гэтак жа, як і Лукашэнка, па-свойму разумее дэмакратыю і правы чалавека, то не было б ані грузінскай вайны 2008 года, ані «рускага свету», ані канфлікту ў Данбасе.




> **Ці атрымалі хаос і анархію грузіны ў выніку «рэвалюцыі ружаў»?**

У гэтым рэчышчы ўзнікае пытанне пра «глыбінную крыніцу гэтых крызісаў і пагроз: штучны культ індывідуальных правоў і свабод чалавека ў шкоду грамадскім інтарэсам». З «індывідуальнымі правамі і свабодамі» ўсё зразумела даўно, яшчэ з 1948 года, калі была прынятая Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека. А вось што такое «грамадскія інтарэсы»?

Ці адпавядаў грамадскім інтарэсам сыход Шэварнадзэ ў выніку «рэвалюцыі ружаў»? Ці ўцёкі Бакіева і Януковіча? Грамадзяне гэтых краінаў вам адкажуць адназначна: адпавядаў. І «індывідуальныя правы і свабоды» гэтым «грамадскім інтарэсам» ніяк не супярэчаць.

Калі, канешне, не разумець пад «грамадскімі інтарэсамі» адзінаасобнае захаванне ўлады на як мага большы тэрмін. Менавіта так разумее «грамадскі інтарэс» Аляксандр Рыгоравіч. Аднак трэба ўсё ж адрозніваць дзяржаву і грамадства. Колькі заўгодна кіраўнік Беларусі можа паўтараць славутае выслоўе Людовіка XIV: «Дзяржава — гэта я!» Але «дзяржава» і «грамадства» — розныя рэчы.

Выснова з прамовы Аляксандра Рыгоравіча ў ААН вельмі простая. У чарговы раз ён паспрабаваў пераканаць грамадства, міжнародную супольнасць і сусветных лідараў, што без яго ў Беларусі ўсё ляснецца. Прычым, ён сапраўды так лічыць. А значыць, аніякіх зменаў як ва ўнутрыпалітычным, так і ў знешнепалітычным жыцці не адбудзецца.

А паколькі галоўнае пытанне зараз у Лукашэнкі ўнутры краіны, — прэзідэнцкія выбары, — то і ніякіх зменаў у іх правядзенні чакаць не варта. На «лібералізацыю» і «прызнанне выбараў Захадам» беларускія ўлады, падобна, забілі болт.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГРОДНА. Кардынальны крок у абарону навучання па-беларуску



**Гродзенцы, пяцікласнік Даніла і шасцікласнік Мікіта Кузьмінічы, перасталі хадзіць на заняткі ў гімназію №10.**

Бацька Ігар Кузьмініч вымушаны быў такім спосабам прыцягнуць увагу да ігнаравання права яго дзяцей навучацца па-беларуску. Усе ранейшыя «лёгкія» спосабы паўплываць на выкананне сваіх канстытуцыйных правоў вычарпаныя.

«Для нас навучанне па-беларуску – гэта прынцыпова, – кажа Ігар Кузьмініч. – Мы пайшлі на саступкі, а ў выніку атрымалася, што і гэтага немагчыма забяспечыць для Данілы. Няма сістэмы, якая б дазваляла без дыскрымінацыі, спакойна напісаць бацькам заяву і атрымаць магчымасць іхным дзецям навучацца па-беларуску. Альбо хаця б па індывідуальным маршруце. Калі ты пішаш такую заяву, то ты павінен быць падрыхтаваны да вялікай колькасці сустрэчаў з адміністрацыямі розных узроўняў для таго, каб узгадніць розныя пазіцыі. Само па сабе гэта дыскрымінацыйна».

Праз два дні ад пачатку адмовы бацькоў весці спачатку Данілу, а пасля Мікіту ў школу, якая ігнаруе моўную роўнасць, так і няма рэакцыі дырэктаркі гімназіі №10 Алены Зінчук. Пасля чатырох месяцаў дамагання беларускага навучання для Данілы, ён яго так і не атрымаў.

Самому бацьку Ігару Кузьмінічу нічога не засталося, як накіраваць ліст у абласны выканаўчы камітэт, дзе ён патлумачыў прычыну сваіх дзеянняў.

**Беларускае Радыё Рацыя**

### АСТРАВЕЦ. Літва занепакоеная бяспекай Беларускай АЭС



**Ужо напрыканцы гэтага года плануецца даставіць на будаўнічую пляцоўку Беларускай АЭС (БАЭС) у Астраўцы выраблены ў Расіі рэактар для першага энергаблока, а ўвесці яго ў эксплуатацыю плануюць у 2018 годзе.**

Літоўскія эксперты занепакоеныя бяспекай гэтай самай таннай у свеце АЭС. «У Беларусі нагляд за АЭС ажыццяўляюць не спецыялісты па атамнай энергетыцы, а мінскія чыноўнікі, якіх, у сваю чаргу, каманднымі метадамі кантралюе прэзідэнцкі палац. Узнікае заклапочанасць, каб не былі парушаныя патрабаванні ядзернай бяспекі. Бо ад страху і з нежадання адставаць ад графіка нашы суседзі могуць пабудаваць АЭС сяк-так. На постсавецкай прасторы выраз «хацелі, як лепш, а атрымалася, як заўсёды» усё яшчэ актуальны», – выказаў апасенні лектар Інстытута міжнародных адносінаў і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта, незалежны эксперт па энергетыцы Ромас Швядас, перадае DELFI.

Дырэктар Дэпартамента палітыкі эканамічнай бяспекі МЗС Літвы Гіта Грыгайцітэ кажа, што асаблівую занепакоенасць выклікаюць заявы Беларусі аб тым, што будаўніцтва яе АЭС будзе самым танным у свеце, а калі ўлічваць, што рашэнні ў галіне ядзернай бяспекі і адпаведныя тэхналогіі каштуюць дорага, узнікае пытанне, за чый кошт Беларусь эканоміць пры будаўніцтве першай атамнай станцыі.

# Супраць усіх кандыдатаў

**Беларускія хрысціянскія дэмакраты падалі заяўкі на правядзенне передвыбарчых пікетаў з мэтай агітацыі супраць усіх кандыдатаў і давядзення да грамадзян Беларусі таго, што ўдзел у галасаванні пры сённяшніх умовах з'яўляецца немэтазгодным і будзе азначаць прамую падтрымку дзейнага рэжыму.**

Пікеты пададзеныя ў больш чым 15 населеных пунктах, у тым ліку ў Мінску, абласных цэнтрах і іншых буйных гарадах.

«Згодна з Канстытуцыяй і ўвогуле з прынцыпамі свабодных выбараў, кожны грамадзянін Беларусі, любая грамадская арганізацыя і палітычная сіла, а не толькі прадстаўленыя ўладай кандыдаты, мае права выказваць сваё меркаванне, весці агітацыю. У тым ліку агітаваць супраць усіх. Адмова, забарона і супрацьдзеянне ў правядзенні такіх акцый па Беларусі яшчэ раз падкрэсліць, што свабодных выбараў мы не маем, але маем падрыхтаваны спектакль, апошняя частка якога – загон людзей на выбарчыя ўчасткі. Асабіста я ўдзельнічаць у гэтым галасаванні не буду, упэўнены, што так зробяць многія беларусы», – заявіў сустаршыня аргкамітэту БХД Віталь Рымашэўскі.

**bchd.info**

# Раскідваемся дзяржаўнымі ўзнагародамі

Генадзь КЕСНЕР

**Беларускі кіраўнік надзяліў высокапастаўленых расійскіх чыноўнікаў дзяржаўнымі ўзнагародамі. Адпаведная цырымонія прайшла ў амбасадзе Беларусі ў Маскве 29 верасня, а медалі і ордэны на лацканы крамлёўцаў вешаў беларускі прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў.**

Ордэнам Пашаны ўганараваны спікер Дзяржаўнай Думы Сяргей Нарышкін «за істотны асабісты ўнёсак у падрыхтоўку Дагавора аб Еўразійскім эканамічным саюзе, у развіццё, пашырэнне інтэграцыйных працэсаў, умацаванне эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй».

Віцэ-прэм'еры расійскага ўраду Ігар Шувалаў і Аркадзь Дварковіч атрымалі па Ордэну Дружбы народаў. Апроч таго, «за істотны асабісты ўнёсак у стварэнне агульнай інфармацыйнай прасторы і развіццё беларуска-расійскага супрацоўніцтва ў галіне журналістыкі» генеральны дырэктар федэральнай дзяржаўнай установы «Российская газета» Павел Нягоіца адзначаны Ордэнам Пашаны, галоўны рэдактар гэтага ж выдання Уладзіслаў Фронін узнагароджаны Ордэнам Францыска Скарыны. Шэф-рэдактар газеты «Союз. Беларусь — Россия» Вольга Герасіменка ўшанаваная медалём Францыска Скарыны.

Пракаментаваць гэты факт «Новы Час» папрасіў палітолага Валерыя Карбалевіча. «Расія час ад часу ўзнагароджвае беларусаў, якіх яна лічыць прарасійскі скіраванымі, Беларусь узнагароджвае расійскіх кіраўнікоў. Праўда, такога масавага ўзнагароджвання раней не было. Магчыма, гэта жаданне такім чынам задобрыць расійскае кіраўніцтва. Але ці можна гэта зрабіць такім чынам? — задаецца пытаннем эксперт. — Калі б быў нейкі юбілей, то гэта яшчэ неяк можна было б зразумець, а так...»

Зараз больш цікава і важна, адзначае Карбалевіч, што Расія пагадзілася перанесці плацяжы па крэдыце, які Беларусь мусіла сплаціць у 2015 годзе, на 2016 год. Да таго ж, Масква паабяцала пастаўляць у 2016 годзе і пазней на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы 24 мільёны тон нафты штогод. «Апроч таго, Еўразійскі фонд стабільнасці і развіцця абяцае выдаць Беларусі крэдыт, але гэта, відаць, будзе за плануемую ваенную авіяцыйную базу, якую Расія мяркуе размясціць на нашай тэрыторыі», — лічыць суразмоўца.

Разам з тым, кажа Карбалевіч, мы маем шмат прыкладаў, калі Лукашэнка віншуе і ўзнагароджвае вядомых расійскіх акцёраў, выканаўцаў, у той час як вельмі рэдка можна ўбачыць, каб Лукашэнка кагосьці віншаваў з беларускіх дзеячаў культуры. «Лукашэнка скіраваны ў бок Расіі. У прынцыпе, тут няма чаго абурацца. Вось калі размесцяць у нас расійскую ваенную базу, тады так. А вось медалі няхай раздае», — падсумаваў аналітык.

# Андрэй Бандарэнка: «Святло ў канцы турэмнага тунелю гарыць усё ярчэй...»

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Чарговы ліст на волю прыйшоў ад вязня сумлення Андрэя Бандарэнкі. Ён піша, што парадаваўся за тых палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, якіх вызвалілі найвышэйшым указам. Асабліва ён рады за Мікалая Статкевіча, якога лічыць сапраўдным героем.**

Бандарэнка ў той жа час адзначае, што практыка палітычных пераследаў павінна спыніцца як ганебная з'ява ў сучасным дзяржаве.

Яшчэ ён піша, што на ўласным досведзе пераканаўся ў неабходнасці рэфармавання турэмнай сістэмы, якая не перавыхоўвае, а прыніжае людзей. У той жа час, на яго думку, «святло ў канцы турэмнага тунелю гарыць усё ярчэй з кожным днём». Такую выснову ён робіць на падставе таго, што з'яўляецца ўсё больш людзей, якія выказваюцца за рэфармаванне беларускіх турмаў і калоній.

Вязень таксама дзякуе рэдакцыі газеты «Новы Час» за публікацыі пра яго.

А ў Мінску тым часам шэраг палітыкаў прынялі заяву, у якой гаворыцца, што «ўлады Беларусі заяўляюць пра вызваленне ўсіх палітвязняў, але за кратамі застаюцца праваабаронцы Андрэй Бандарэнка і Міхаіл Жамчужны». Як адзначаецца ў дакуменце, «крымінальныя справы супраць іх былі інспіраваныя спецслужбамі рэжыму Лукашэнкі з мэтаю разгрому ачольваемай імі праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн», якая адзіная сур'ёзна працавала па пытанні парушэння правоў чалавека ў беларускіх турмах».

«Мы патрабуем ад уладаў неадкладнага вызвалення Андрэя Бандарэнкі і Міхаіла Жамчужнага і поўнай рэабілітацыі, як іх, так і раней вызваленых палітвязняў. Звяртаемся да беларускай і міжнароднай грамадскасці з заклікам правядзення кампаніі салідарнасці з беларускім палітвязнямі Андрэем Бандарэнкам і Міхаілам Жамчужным», — кажацца ў заяве.

Дакумент падпісалі былы палітвязень Мікалай Статкевіч, Уладзімір Някляеў, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і Вячаслаў Сіўчык, які нядаўна вярнуўся ў Беларусь з палітычнай эміграцыі.

# Захаваць незалежнасць Беларусі

Марат ГАРАВЫ

**Галоўнае сёння — супрацьстаяць імперскай атацы з боку Расіі, пратрымацца гэту восень і захаваць незалежнасць Бацькаўшчыны. Пра гэта вечарам 29 верасня ў Курапатах на традыцыйным штомесячным ушанаванні памяці ахвяраў сталінізму заявіў старшыня аргкамітэту па стварэнні руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык.**

На ягоную думку, у сённяшняй сітуацыі беларусы могуць абапірацца толькі самі на сябе. «У нас, на жаль, няма сур'ёзных саюзнікаў у замежжы, і не трэба прыдумляць сабе, што яны быццам бы ёсць. Але калі любы чалавек змагаецца за сваю свабоду, яго заўсёды падтрымліваюць іншыя людзі. А калі любая нацыя змагаецца за сваю волю, яе ўсё роўна падтрымаюць іншыя нацыі. Самае галоўнае — не маўчаць, не зміраццa, не здацца», — падкрэсліў палітык.

«Апірышча беларусаў — нашы сучаснікі і продкі, што стагоддзямі жылі на гэтай зямлі і мужна абаранялі яе волю і незалежнасць», — сказаў Вячаслаў Сіўчык.

Сярод удзельнікаў ушанавання былі выбітныя айчынныя мастакі, ветэраны апошняй хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння Аляксей Марачкін і Алесь Шатэрнік, а таксама мінчанка Марыя Каржанеўская. Яна прыйшла ў Курапаты таму, што рабочыя і сяляне — яе продкі па мячы і па кудзелі — таксама сталі ахвярамі сталінізму. Гэта — расстраляны ў Барысаве Станіслаў Каржанеўскі, а таксама забітыя ў Мінску, мажліва ў Курапатах, Міхал Бабіцкі і Аляксандр Міхневіч.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Папайя альбо зялёны гарошак?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Усё ж, калі беларусы жартуюць, яны жартуюць, як кажуць, «не па-дзіцячы». Не паспела Масква адрагатацца з нагоды «беларускіх мідый і крэветак», як наша сельская гаспадарка зноў здзівіла.**

У Расію з Беларусі прыйшла «беларуская папайя». Рассельгаснагляд моцна засумаваў з гэтай нагоды. Аказваецца, у нас ёсць не толькі сваё мора з крэветкамі, але і свае тропікі. І расіяне паспрабавалі даведацца, дзе яны знаходзяцца.

Рассельгаснагляд запытаў ва ўладаў Беларусі звесткі аб аб'ёмах вытворчасці, экспарту і ўнутранага спажывання, а таксама інфармацыю аб вытворцах несезоннай і экзатычнай плодаагароднінай прадукцыі нібыта беларускага паходжання ў сувязі з рэгулярнымі пастаўкамі такой прадукцыі. «З мэтай абароны тэрыторыі РФ ад заносу і акліматызацыі шкодных арганізмаў з улікам рызык, звязаных з увозам падкарантыннай прадукцыі сумнеўнага паходжання, Рассельгаснагляд зноў звярнуўся да міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі па гэтым пытанні», — гаворыцца ў паведамленні ведамства.

«Праведзены аналіз падкарантынных тавараў, якія паступілі ў РФ з Беларусі, выявіў рэзкае павелічэнне аб'ёмаў плодаагароднінай прадукцыі беларускага паходжання за сем месяцаў бягучага года ў параўнанні з 2014 годам (па дадзеных мытнай статыстыкі). Пры гэтым пастаўкі латуку, цытрусавых, бахчавых і папаі, яблыкаў, груш, абрыкосаў, вішні, чарэшні і іншай плодаагароднінай прадукцыі беларускага паходжання ўзраслі за гэты перыяд больш чым у два разы», — адзначае ведамства. Рассельгаснагляд таксама выявіў, што прамаркіраваныя беларуская клубніцы, ажына і маліна па марфалагічных і сезонных прыкметах «маюць статус паходжання з трэціх краін».

Памаўчалі б там спадары расійскія кантралёры, бо не ведаюць, што «сезон», а што «не сезон». Увогуле, з глабальным пацяпленнем і дасягненнямі ў сартаводстве хутка так станецца, што «сезонный» прадукцыі не будзе ўвогуле.

Вось у мяне на лецішчы і зараз ёсць маліна, хаця ўжо, лічы, сярэдзіна восені. Проста гатунак такі, называецца «рэмантантны». Між тым, першы такі гатунак маліны на тэрыторыі СССР вывеў яшчэ спадар Мічурын. Той самы, які палез на яблыню за агуркамі, а яго кавуном прыбіла.

На мінулым тыдні мы даелі свойскія персікі. І тое даелі іх толькі таму, што яны з-за начных маразоў абсыпаліся.

І ўся гэтая прыгажосць расце ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці. Таму я цалкам не выключаю, што беларускія селекцыянеры дзе-небудзь бліжэй да поўдня — у Гомельскай альбо Брэсцкай абласцях, — сапраўды вырошчваюць беларускую папайю і ківі. Нездарма ж нават такі аматар сельскай гаспадаркі, як Жэрар Дэпард'ё прыязджаў у сінявокую, каб пераняць тут досвед передавога вырошчвання садавіны і гародніны. Праўда, замест гэтага беларускі «бацька» даў яму ў рукі касу, але тым не менш.

Канешне, селекцыя селекцыяй, але прамысловых аб'ёмаў вытворчасці зімовай маліны ды айчынных ківі мы пакуль што не дасягаем. Таму мы цалкам законна ўжыцццявілі анекдот, як спаборнічалі выбітны ілюзіяніст Дэвід Каперфільд і беларускі мытнік. Каперфільд схаваў адзін вагон наўпрост на вачах у мытніка, а мытнік кажа: «Лабуда гэта ўсё. Бачыш той цягнік з аўтамабілямі? А зараз гэта (дыхае на пячатку і прыкладае яе да дакументаў) — зялёны гарошак!»

«Расія і Беларусь знаходзяцца ў адзінай мытнай тэрыторыі. І калі пастаўшчык вырашае, што яму лагістычна выгадней везці трапічную прадукцыю праз размешчаны ў Беларусі мытны склад, то ў гэтым няма нічога незаконнага... Калі тавар перажывае пэўны аб'ём перапрацоўкі на тэрыторыі Беларусі, калі ён становіцца таварам Мытнага саюза і залучаецца ў эканамічны абарот на тэрыторыі Беларусі, то ён абсалютна законным чынам пастаўляецца на тэрыторыю ўсяго Мытнага саюза», — патлумачыў беларускі прэм'ер Андрэй Кабякоў расійскаму прэм'еру Дзмітрыю Мядзведзеву асаблівасці з'яўлення на тэрыторыі Расіі беларускай папаі. І параіў аўтарам журналісцкіх «сенсацый» пра беларускія крэветкі і марскую рыбу вывучыць мытнае заканадаўства.

Так што, спадары расіяне, калі вы бачыце на сваіх паліцах беларускія ківі альбо авакада — не турбуйцеся. Гэта «зялёны гарошак».

Мабыць, з прычыны такой неймавернай нахабнасці расіяне былі настолькі шакаваныя, што падпісалі ўсё, што ім падсоўвалі. Напрыклад, на сустрэчы Кабякова і Мядзведзева Расія і Беларусь дамовіліся аб адтэрміноўцы па крэдытных лініях, прадастаўленых Мінску, да 2016 года. «Дасягнутыя дамоўленасці аб адтэрміноўцы плацяжоў па дзеючых крэдытных лініях да 2016 года, пры гэтым трэба адзначыць, што Беларусь выконвае свае бягучыя фінансавыя абавязацельствы цалкам», — падкрэсліваецца ў дакуменце, які цытуе Інтэрфакс.

Шкада, што не да будучага тысячагоддзя, але і тое хлеб. Зараз у «беларускай мадэлі» ёсць пэўны люфт часу. Але ён вельмі маленькі. 2016 год настане ўжо праз тры месяцы. Але да гэтага моманту, можа быць, краіна паспее атрымаць крэдыты ад Еўразійскага банка развіцця і Міжнароднага валютнага фонду.

Тут ёсць свае складанасці. Напрыклад, старшыня МВФ Крысцін Лагард на сустрэчы з беларускім кіраўніком у мінулую суботу ў Нью-Ёрку празрыста намякнула Аляксандру Рыгоравічу, што дасць грошы толькі ў выпадку згоды Лукашэнкі на правядзенне глыбокіх структурных рэформаў у беларускай эканоміцы. І, як вынікае з паведамлення пра сустрэчу, не толькі ў эканоміцы.

«Спадарыня Лагард прывітала некаторы прагрэс, дасягнуты ў апошні час ва ўмацаванні рамачнай палітыкі ў Беларусі, але падкрэсліла, што для аднаўлення стабільнасці і паступальнага росту неабходная больш глыбокая пераарыентацыя палітыкі, якая пастаянна падтрымліваецца на самым высокім узроўні», — гаворыцца ў дакуменце.

Добра гэта ці кепска, пойдуць улады на «пераарыентацыю палітыкі» ці не, — прагназаваць цяжка. Але ў тым, што «беларускі эканамічны цуд» жыве па прынцыпе фінансавай піраміды — бярэм новыя крэдыты, каб аддаць старыя, — нічога станоўчага відавочна няма.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

## Кірыл Сілівончык



**Беларус, асуджаны ў Расіі за падтрымку Украіны, атрымаў магчымасць ліставацца з сябрамі.**

Зараз у Кірыла Сілівончыка з'явіўся адрас, на які яму можна дасылаць пошту: Расія, 606640, Ніжагародская вобласць, Сямёнаўскі раён, п. Сухабязводнае, УКП пры ФКУ ВК-14.

Пісаць трэба па-руску, бо турэмная цэнзура не прапускае лісты на іншай мове.

Кірыл Сілівончык, які працаваў сістэмным адміністратарам на адным з заводаў у Ніжнім Ноўгарадзе, быў прысуджаны Маскоўскім акруговым ваенным судом да 2 гадоў калоніі-пасялення за заклікі вярнуць Крым Украіне. На сваёй старонцы ў сацсетцы ён размяшчаў тэксты і малюнкі ў падтрымку Украіны і з асуджэннем расійскай палітыкі. Ён быў прызнаны вінаватым па артыкуле 205.2 Крымінальнага кодэкса РФ (публічныя заклікі да ажыццяўлення тэрарыстычнай дзейнасці або публічнае апраўданне тэрарызму).

Па словах адваката Сілівончыка Юліі Баранец, яе падабаронны вырашыў не абскарджваць прысуд. Сілівончык — інвалід трэцяй групы з дзяцінства. Фармальна ў часе суду беларус прызнаў сваю віну. Па словах адваката, гэта дало магчымасць правядзення працэсу ў спрошчаным парадку і па паскоранай працэдуры і, у сваю чаргу, прывяло да максімальна мяккага з магчымых прысудаў.

## Таццяна Караткевіч



**Кандыдат у прэзідэнты паставіла ў тупік ЦВК і ўладныя органы.**

Таццяна Караткевіч вельмі нестандартна адрэагавала на тое, што іншы кандыдат, а менавіта Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, адмовіўся выступаць па тэлебачанні са сваёй праграмай.

Таццяна вырашыла ўзяць сабе гэты эфірны час, і, як распавёў яе прадстаўнік у ЦВК Ігар Ляльков, звярнулася ў Цэнтральную выбарчую камісію з прапановай даць ёй той час для выступу па тэлебачанні, які не скарыстаў Лукашэнка.

Нагоду для гэтага даў сам Аляксандр Рыгоравіч, які падчас вандроўкі ў Жлобін 25 верасня заявіў, што «калі некаму трэба, я магу яму падараваць гэты час».

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына адзначыла, што просьбу Караткевіч выканаць будзе «даволі праблематычна». Па яе словах, ёсць тры праблемы. Першая: час выдзяляецца для пэўнага кандыдата, і не прадугледжана, каб гэты час перадаваўся іншаму. Другое: тэлевізійная праграма ўжо звярстаная, і ўносіць змены будзе складана. І трэцяе, — выглядае так, што час гэтага выступу можа накласціся на пачатак датэрміновага галасавання, чаго яшчэ не было ў практыцы правядзення прэзідэнцкіх выбараў.

Але самае цікавае — там жа, у Жлобіне, Лукашэнка заявіў, што можа звярнуцца да беларусаў напярэдадні галасавання. Значыць, што дазволена кандыдату Лукашэнку, не дазволена кандыдату Караткевіч?

## Аляксандра Сасновіч



**Падобна на тое, што ў беларускім тэнісе нараджаецца новая зорка.**

Аляксандра Сасновіч сенсацыйна выйшла ў фінал адзіночнага разраду на турніры ВТА ў Сеуле.

Нагадаем, у Сеуле завяршыўся першы паўфінал адзіночнага разраду на турніры ВТА з прызавым фондам 426.750 долараў. Беларуска Аляксандра Сасновіч (нумар 136 у рэйтынгу ВТА) у трох сэтах абыграла славачку Ганну Шмідлаву (нумар 31 у тым жа рэйтынгу) з лікам 3:6, 6:3, 6:3.

Сасновіч толькі 21 год. Між тым, яна ўжо майстар спорту міжнароднага класа. Пераможца 18 турніраў ITF (11 — у адзіночным разрадзе). ITF — другі па значнасці жаночы прафесійны тэнісны тур, спаборніцтвы якога з'яўляюцца прамежкавай прыступкай паміж юніёрскімі і аматарскімі турнірамі з аднаго боку і турнірамі WTA з другога.

Таксама Сасновіч — паўфіналістка двух юніёрскіх турніраў Вялікага шлема ў парным разрадзе (US Open-2011, Roland Garros-2012).

У вырашальным матчы беларуска згуляе з румынкай Ірынай Камеліяй Бягу. Паядынак адбудзецца ў нядзелю, 27 верасня.

# Гульня ў «веру — не веру»

Сяргей ПУЛЬША

**Вынікі чарговага апытання грамадскай думкі за верасень, якія ў папярэднім прэс-рэлізе агучыў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), прымушаюць думаць, што беларускае грамадства знаходзіцца ў стане шызафрэніі. Альбо з лічбамі нешта не так, бо яны надзвычай парадаксальныя.**




**Мая гульня — мае правілы!**

Канешне, найбольшая ўвага зараз надаецца прэзідэнцкім выбарам у Беларусі. І дадзеныя НІСЭПД у гэтым рэчышчы вельмі дзіўныя. Найперш, сацыёлагі адзначаюць, што гатоўнасць галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах сёння выказваюць звыш 72,5% апытаных (36,2% «так, вядома будуць» і 36,3% «хутчэй так», 16% «хутчэй не», 7,8% «дакладна не будуць»). Можа, гэта дзіўна, можа — не, але гэтыя лічбы карэлююцца з нядаўнім апытаннем Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта і Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі. Паводле афіцыйных дадзеных, у выбарах прымуць удзел 86,2% рэспандэнтаў (72% «так» і 14,2% «хутчэй так»).

Паводле дадзеных НІСЭПД, чым хутчэй выбары, тым больш уздымаецца рэйтынг Аляксандра Рыгоравіча. У верасні за яго гатовыя былі галасаваць 45,7% — «як па закрытым, так і па адкрытым пытанні», зазначае НІСЭПД. Ці не дзіўна, што гэтыя лічбы супалі?

Таксама НІСЭПД праводзіць параўнанне з выбарамі 2010 года, калі за Лукашэнку выказвалі жаданне аддаць галасы 48,2% (адкрытае пытанне) і 44% (закрытае).

Рэйтынг даверу да кіраўніка дзяржавы застаўся прыкладна на тым жа ўзроўні, што і ў чэрвені: 47% давяраюць прэзідэнту, а 37,1% — не.



За Таццяну Караткевіч па закрытым пытанні сёння гатовыя галасаваць 17,9%, а па адкрытым — 7,2% рэспандэнтаў.

НІСЭПД робіць з гэтага забойную выснову. Проста працытуем яе. «Паколькі рэальныя вынікі залежаць ад яўкі, элементарны разлік паказвае, што калі ў галасаванні прымуць удзел 72,5%, якія заявілі пра гэта, то 45,7% галасоў за Лукашэнку ператворацца ў 64%, а 17,9% за Караткевіч — у 25%. Калі ж, паводле «закону сацыяльнага прыцягнення» (па аналогіі з законам фізікі, калі малое цела прыцягваецца вялікім) і шматгадоваму электаральнаму маніторынгу НІСЭПД, да галасуючых дадасца частка тых, хто не вызначыўся, то пры яўцы 80% за дзейнага прэзідэнта прагаласуюць 56%, а за Караткевіч 22%. Пры яўцы меншай за заяўленую — напрыклад, 60% — першы кандыдат атрымлівае звыш 76%, а другі амаль 30%. Маштабы страт, які нанесла гэтым выбарам няздольнасць апазіцыі да кансалідацыі, бачныя па адказах на пытанне: «Калі б Вы ведалі чалавека, які мог бы паспяхова канкураваць з Лукашэнкам на прэзідэнцкіх выбарах, то прагаласавалі б за яго або за Лукашэнку?». Прагаласавалі б за такога кандыдата 38,7%, за А. Лукашэнку — 32,3%, «пакуль не ведаю, паглядзеў бы па абставінах» — 28,1%».

**Альбо ў НІСЭПД нешта наблыталі пры падрыхтоўцы прэс-рэлізу. Альбо рэспандэнты нахлусілі. І тут ужо сацыёлагі не вінаватыя**

Дзіўнае ў гэтых лічбах амаль усё. Напрыклад, яўка ў 72,5%.

Згодна з тым жа апытаннем, 75,6% рэспандэнтаў лічаць, што прэзідэнта абяруць у першым туры. Згодныя з меркаваннем, што на выбарах гэтага года наканавана, хто будзе пераможцам, 57,6%. Не згодныя з тым, што цяперашнія выбары прэзідэнта будуць свабоднымі і справядлівымі, — 34,4%. 48,9% апытаных не лічаць, што ў ходзе выбарчай кампаніі ўмовы ва ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты роўныя. Менш за 40% выбаршчыкаў сёння лічаць, што ЦВК — гэта «бесстаронні орган, які кіруецца ў сваёй працы толькі законам», а палова мяркуюць — што гэта «орган, які кіруецца ў сваёй працы, перш за ўсё, указаннямі прэзідэнта».

І з такімі настроямі ў грамадстве прагназаваць яўку ў тры чвэрці насельніцтва? Калі палова апытаных увогуле не лічаць, што выбары нешта вырашаюць, і што «ўсё ўжо выбрана да іх»? Гэта класны аптымізм у НІСЭПД.

Здзіўляе і рэйтынг Лукашэнкі, які фактычна застаўся на ўзроўні «хлебнага» 2010 года. Тады былі сродкі на моцны «подкуп выбаршчыкаў», не было такой крызіснай сітуацыі, як зараз, праводзіліся агітацыйныя акцыі кшталту Усебеларускага народнага сходу. Зараз нават прапаганда не так працуе, як тады, бо няма што сказаць людзям.

Паводле таго ж апытання НІСЭПД, зараз колькасць тых, чыё матэрыяльнае становішча пагоршылася, павысілася з 37,2% у чэрвені да 42,5% у верасні. Тых, у каго матэрыяльнае становішча «не змянілася», было 51,3%, стала 44,4%. Сярэдні памер даходаў (уключаючы зарплаты, пенсіі, дапамогі, падпрацоўкі і інш.), які прыходзіўся на аднаго члена сям'і ў мінулым месяцы, істотна панізіўся: з $240 у чэрвені да $200 у верасні. Колькасць тых, хто лічыць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе, павялічылася з 72% да 75,1%. Трывога за будучыню па-ранейшаму не праходзіць: паляпшэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне ў бліжэйшыя гады чакаюць 20,6%, а пагаршэння — 36,2% (37,2% лічаць, што нічога не зменіцца).

У гэтай сітуацыі НІСЭПД лічыць, што рэйтынг Лукашэнкі параўнальны з 2010-м, калі заробак усё ж дасягнуў $500? І адначасова палова апытаных (52,7%) лічаць патрэбным змяніць сітуацыю ў краіне?

І зусім анекдатычнай выглядае лічба байкатоўшчыкаў. Як вышэй пісалася, толькі 7,8% рэспандэнтаў заявілі, што «дакладна не будуць» удзельнічаць у выбарах. А вот тых, хто «станоўча ўспрымае ідэю байкоту гэтых выбараў», набралася аж 15,5%. Гэта што: палова прыхільнікаў байкоту ўсё роўна пойдуць на выбарчыя ўчасткі? Амаль неверагодна.

Усё гэта выглядае даволі не зразумела. Ёсць некалькі тлумачэнняў такой розніцы ў лічбах. Альбо ў НІСЭПД нешта наблыталі пры падрыхтоўцы прэс-рэлізу. Гэта, канешне, для такіх дасведчаных сацыёлагаў малаверагодна, але, як кажуць, і ў цэсце можна палец вывіхнуць. Альбо рэспандэнты НІСЭПД нахлусілі. І тут ужо сацыёлагі не вінаватыя. Альбо НІСЭПД вельмі хочацца вярнуцца назад, у Беларусь. Але не такімі ж сродкамі, спадарства!

# Улады змушаны перагледзець бюджэт

Генадзь КЕСНЕР

**Незалежныя эксперты прагназавалі, што бюджэт Беларусі на 2015 год будзе скарэктаваны, бо занадта ён аптымістычны. Так і здарылася. Нацыянальны прававы партал апублікаваў указ кіраўніка дзяржавы №399, які быў падпісаны яшчэ 24 верасня. Гэтым указам унесены змены ў ключавыя паказчыкі галоўнага фінансавага дакумента краіны.**

Даходы айчыннага бюджэту, якія былі запланаваныя на суму 156,7 трыльёна тутэйшых рублёў, вырашана павялічыць на 6,6 трыльёна. Гэты рост чакаецца, галоўным чынам, за кошт вывозных мытаў, падатку на здабычу прыродных рэсурсаў, прыбытку ад выкарыстання дзяржаўнай маёмасці. У той жа час выдаткі бюджэту павялічацца на 11,9 трыльёна рублёў (папярэдні план быў — 141 трыльён). Разам з тым мяркуецца, што бюджэт застанецца прафіцытным, але гэты прафіцыт (15,7 трыльёна) зменшыцца на 5,2 трыльёна «зайцоў».

Указ прадугледжвае павелічэнне ліміту дзярждоўгу Беларусі на 11 трыльёнаў рублёў (папярэдні ліміт складаў 60 трыльёнаў); ліміт знешняй запазычанасці, гарантаванай Рэспублікай Беларусь, вырасце на 0,5 трыльёна. Да карэкціроўкі ён складаў у эквіваленце $3 мільярды. Не будзем злоўжываць лічбамі, якіх у дакуменце зашмат.

Што выклікала неабходнасць перагляду бюджэту на бягучы год, які скончыцца праз тры месяцы? На думку эканаміста Льва Марголіна, гэта звязана з дэвальвацыяй беларускага рубля. Паступовая ці не вельмі, але яна ідзе ад пачатку года, і бюджэт, які прымаўся пры канцы мінулага года, зацвярджаўся сыходзячы з зусім іншых суадносінаў беларускага рубля да свабодна канвертуемых валютаў.

Бюджэтныя даходы разлічваліся адпаведна плана, згодна якога сярэднегадавы курс долара да беларускага рубля меўся скласці 11.400 айчынных грашовых адзінак, але на сёння ён складае ўжо больш за 17.500 рублёў. Урад закладваў у бюджэт–2015 кошт нафты $83 за барэль, але цяпер «бочка» каштуе менш 48 долараў. І істотнага росту нафтавых каціровак, як прагназуе расійскі партал РБК, не прадбачацца нават у сярэднетэрміновай перспектыве. ВУП Беларусі мусіў сёлета павялічыцца на 0,5%, але фактычна (паводле дадзеных Белстата) за студзень-жнівень ён знізіўся на 3,5%.

«Зараз гэтыя суадносіны змяніліся, адпаведна, даволі істотна змяніліся і паступленні ад мытаў, ад увазнога падатку на дададзеную вартасць і гэтак далей, што істотна павялічыла прыбытковую частку бюджэту ў рублёвым выражэнні. А з іншага боку, аналагічным чынам павялічыліся кошты на ўсе імпартуемыя тавары. І калі ўлічыць, што ПДВ і мыта складаюць толькі частку вартасці імпартуемых тавараў, а асноўную частку складае іх пакупніцкі кошт, то





**Леў Марголін: «Тое, што ўлады сцвярджаюць наконт імпартазамяшчэння, гэта мы пакінем на іх сумленні. Мы цудоўна ведаем, як гэта дасягаецца»**

адсюль і атрымліваецца, што прыбытковая частка бюджэту павялічылася, але расходная частка павялічылася значна больш», — адзначае суразмоўца.

Улады не спыняюцца ў сцвярджэннях, што дзеля выратавання сітуацыі паспяхова праводзіцца праграма імпартазамяшчэння. Але насамрэч, мяркуе Леў Марголін, гэта нічога не дае. «Тое, што ўлады сцвярджаюць наконт імпартазамяшчэння, гэта мы пакінем на іх сумленні. Мы цудоўна ведаем, якім чынам гэтае імпартазамяшчэнне дасягаецца, калі, да прыкладу, народ ледзьве не ў загадным парадку прымушаюць набываць беларускія лекі, а не імпартныя. Але справа ў тым, што тая частка імпартазамяшчэння, якая тычыцца спажывецкіх тавараў, не з'яўляецца пераважнай. Пераважнай ёсць частка, якая тычыцца сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых, без якіх вытворчасць у прынцыпе немагчымая, — падкрэслівае эканаміст. — І ў нас атрымліваецца смешная сітуацыя, калі для таго, каб, скажам, замест нейкай замежнай бытавой прылады зрабіць сваё, нам даводзіцца імпартаваць камплектуючыя. Бо тэхналагічны ўзровень нашай прамысловасці не дазваляе вырабляць тавары, асабліва складаныя, на тым узроўні, якога сёння чакае спажывец. Таму размовы пра імпартазамяшчэнне часцей за ўсё толькі размовамі і застаюцца».

Што да практыкі перагляду бюджэту, асабліва пры канцы года, то, па словах Марголіна, у тых краінах, дзе гадавая інфляцыя складае 2–3%, а суадносіны нацыянальнай валюты і валют іншых краінаў увогуле не з'яўляюцца справаю ўрада, такой праблемы не існуе ўвогуле. Але ў выпадках рэзкага падзення курса нацыянальнай валюты або, наадварот, у выпадку яе істотнага росту, краіны з адкрытай эканомікай, дзе істотная доля экспарту і імпарту ў складзе ВУП, вымушаны гэта рабіць. Інакш, кажа эканаміст, бюджэт робіцца абсалютна не рэальным.

Якім можа быць беларускі бюджэт на 2016 год? Гэта складанае пытанне, лічыць Леў Марголін. «Таму што, як і ўсё ў нашай краіне, гэта не эканамічная катэгорыя, а палітычная. Калі з самага «верху» скажуць, што бюджэт павінен быць прафіцытным, то ён такім і будзе. Але рэальна ён будзе дэфіцытным, незалежна ад таго, якія лічбы зацвердзіць Аляксандр Лукашэнка, паколькі сітуацыя ў эканоміцы пагаршаецца, і гэтае пагаршэнне здзе працягвацца. Адпаведна, гэта будзе аказваць уплыў на бюджэт», — упэўнены эксперт.

Па словах Марголіна, досвед многіх развітых краінаў паказвае, што галоўнай крыніцай павелічэння даходаў бюджэту з'яўляецца рэфармаванне эканомікі, калі эканоміка пачынае прыносіць даходы, калі існуюць толькі прыбытковыя прадпрыемствы. «Стратныя прадпрыемствы — гэта ўвогуле нонсенс, таму што прадпрыемства не можа быць стратным. Усё астатняе — «ад лукавага». Можна павялічыць стаўкі падаткаў, можна змяншаць неабкладаемы мінімум, можна скарачаць выключэнні, якія не абкладаюцца падаткамі, але ўсё гэта мышыная мітусня. Па вялікім рахунку, без рэфармавання эканомікі сур'ёзнага росту даходаў бюджэту не будзе», — падсумаваў эканаміст.


Закінутая хата ў вёсцы Шавекі


Могілкі стараавераў


Калодзеж-журавель

# Выспа атэізму пад Віцебскам

Аляксей ЧУБАТ

**Ад гарадскога пасёлка Шуміліна да Віцебску ўсяго 43 кіламетры. Кароткая адлегласць да культурнага цэнтра паўночнай Беларусі вымывае людзей з пасёлка, а асабліва — з раёна. Буйныя вёскі яшчэ трымаюцца, а дробныя абязлюдзелі.**

У аграгарадку Мішневічы жыве пад тысячу чалавек, ёсць сярэдняя школа, амбулаторыя, стала нясе варту і падраздзяленне МНС. Каля школы стаіць інтэрнат, у якім падчас навучання жывуць дзеці з аддаленых вёсак. Менавіта ў гэтым інтэрнаце размясціўся штат экспедыцыі Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, якое зладзіла экспедыцыю па раёну.

## Край у пошуках веры

У школьным двары, дзе знаходзіцца дом былога дырэктара, які кіраваў навучальнай установай 20 гадоў, звініць дзятва: практыкуюцца на градах, вырошчваюць гародніну для страў у школьную сталоўку. «Дырэктар», які прадставіўся Віктарам, чалавек камунікабельны. Распавядае, у якія куточкі раёна можна зазірнуць, каб убачыць штосьці асаблівае. На пытанне, чаму ў вёсках ні на ўездзе, ні на выездзе няма крыжоў, адказвае: «Шумілінскі раён вельмі атэістычны — пастаралася савецкая ўлада. У самім гарадскім пасёлку царква да гэтага часу не пабудаваная — службы ідуць у будынку былога раённага суда. Вы ўяўляеце! У будынку, дзе судзілі людзей, — царква!» — эмацыйна падкрэслівае спадар Віктар. І рэкамендуе з'ездзіць на закінутыя могілкі, дзе, па яго словах, пахаванні сярэдзіны XVIII стагоддзя.

Сапраўды, атэізм прайшоўся па Шумілінскім раёне маштабна. У вёсцы Сураўні на поўнач ад Шуміліна прыхаджане пераўтварылі ў царкву былы дом — іншага выйсця не было. «Скідваліся на яго ўсёй грамадой», — кажа староста вёскі. «А ці былі тыя, хто не скідваўся?» — пытаюся я. «Былі два чалавекі, але яны і ў царкву не ходзяць».

Магчыма, адна з прычын атэізацыі раёна — найбольшая колькасць паваенных (пасля Другой сусветнай вайны) пахаванняў і брацкіх магіл у Віцебскай вобласці. Сапраўды, куды ні паедзеш па раёне, убачыш помнік савецкаму воіну — і мужчыне, і жанчыне. А чырвоная зорка, як вядома, не трывае суседства з крыжам.

Да могілак, на якія паказаў «дырэктар» Віктар, не так проста дабрацца. Мінуўшы апошнюю вёску, едзем па разбітай дарозе. Вакол сцяной стаяць дрэвы — нібы прадзіраемся скрозь гушчар. Дарога заканчваецца, далей трэба ісці полем, трава сягае аж да грудзей.

Могілкі знаходзяцца на ўзгорку, які непраходна зарос дрэвамі. Прыходзіцца літаральна прадзірацца праз іх. Думаеш, можа, памыліўся, і тут нічога акрамя зарасніку няма. Але — натыкаешся на каменныя ўмацаванні, і разумееш, што гэта менавіта тое месца. Увесь верх пагорка па дыяметры (а гэта метраў сто) абкладзены заімшэлым каменным поясам. Шырыня пояса — да паўметра.



Абыходжу ўзгорак, знаходжу першыя могілкі на знешнім баку каменнага пояса — яны без помнікаў, толькі жалезныя крыжы. І раптам — ва ўнутранай частцы каменнага пояса бачу пахаванне: помнік, а на ім — частка калоны. Верх калоны адбіты (як удалося потым высветліць у гутарцы з мясцовымі жыхарамі, ён быў метра паўтара вышынёй), таблічку з імем і гадамі жыцця — адарвалі. І, што самае непрыемна, пахаванне раскапанае. Адразу ўспамінаю словы «дырэктара» пра атэістычны край.

Марадзёры, відаць, — суцэльная навала гэтых мясцін. Вось яшчэ прыклад. На тэрыторыі раёна знаходзіцца Казьянскі заказнік. А пад яго шатамі затаіліся старажытныя Крывіцкія курганы 5–6-тысячагадовай даўніны. Археалагічныя раскопкі на курганах не вяліся, але марадзёрам не трэба браць дазвол у дзяржаўных інстанцыях. То адзін курган раскапаны, то другі. Невядома, ці знайшлі штосьці каштоўнае для сябе д'яблавы шукальнікі, але шнары па нашай памяці і гісторыі нанеслі.

У Казьянскім заказніку колькасць дзікіх жывёл — мядзведзяў, ласёў, лісіц, дзікоў, рысяў — па словах адной мясцічкоўкі, «от і до». У лесе, дзе курганы, галлё трышчыць ад іх тупату і справа, і злева. Дастаткова зайсці з дарогі ў лес метраў на сто, каб знайсці лежбішча ласа. Але, як ні прыкра, самымі здзічэлымі асобамі ў запаведніку з'яўляюцца марадзёры.


Яшчарка з Казьянскага заказніка

## Маскоўскія могілкі

Звычайна людзі звыкаюцца з культурным ландшафтам той мясцовасці, дзе яны жывуць. І ўспрымаюць антрапалагічныя краявіды як нешта натуральнае. Але не заўсёды. Могілкі стараавераў і вялізны валун — тыя асаблівасці, пра якія абавязкова ўзгадваюць мясцовыя жыхары поўначы Шумілінскага раёна, калі распавядаюць пра свой край. Праўда, што гэта могілкі стараавераў, адразу не зразумець. Бо мясцовыя называюць іх «маскоўскімі могілкамі», а людзей, што там пахаваныя, — «маскалямі». Шумілінцы лічаць, што спосаб пахавання стараавераў больш дасканалы, бо дазваляе душы хутчэй узняцца на неба.

Вёска Шавекі, дзе знаходзіцца валун, нежылая. Закінутыя дамы, пабітае шкло, разабраныя сцены — усё зарасло. Мост праз рэчку Обаль таксама разабраны, таму даехаць да былой вёскі цяпер няпроста. У двары аднаго з разбураных часам і людзьмі дамоў і ляжыць валун. Нягледзячы на вялікасць, яго трэба яшчэ пашукаць. Наш праваднік з мясцовых водзіць паўгадзіны. Валун — сведка не проста часу, а тысячагоддзяў, для якога лёс вёскі прайшоў як імгненне. Праз тысячы год ад паселішча нічога не застанецца, а валун будзе ляжаць. (Знайсці яго можна па каардынатах: N55°34'6.9'', EO 29°33'07.2''). Зразумела, што на знікненне вёскі ўплываюць агульнасусветныя ўрбаністычныя працэсы. Але часткова гэта і бязвер'е ў яе будучыню, у тое, што на зямлі зноў з'явіцца Гаспадар.

Карані гэткага песімізму хаваюцца ў няпростым лёсе вяскоўцаў. Як вядома, калектывізацыя закранула шумілінскі край яшчэ перад Другой сусветнай вайной, раскулачванне ў 30-х гадах было асабліва жорсткім, не раўня лагоднаму і амаль бяскроўнаму раскулачванню заходнікаў пасля вайны. Потым — цяжкая праца ў калгасе. Бабулі распавядаюць, што 6–7-гадовымі дзяўчынкамі яны разам з маці валілі лес. Калі дзяўчынка не магла пілаваць, яна біла нагой па спілаваным дрэве, каб яно ўпала. Ніна Пундалава 1940 г.н. кажа пра свае дзіцячыя і дзявочыя працоўныя гады: «Каго я толькі ні пасвіла — аднаго чорта не пасвіла. А каб пастуціць куды вучыцца — трэба было адпрацаваць у калгасе два гады. Толькі тады адпускалі». Спадарыні Пундалавай у 1944-м было чатыры, але яна добра памятае зіму пачатку таго года. «Я тады жыла ў Гарадоцкім раёне, у вёсцы Хамёнкі. Савецкіх салдат, пабітых немцамі, было тысячы. Іх закапвалі разам, прама ў адну яму. А потым, ужо пасля вайны, — распавядае яна, — з гэтага месца ўзялі коўш зямлі, і прысыпалі да помніка ў вёсцы Кавалі. А само гэта месца пахавання зараўнялі. Цяпер там лес расце. Вы паедзьце ў Хамёнкі, там вам любы стары чалавек гэта месца пакажа», — распавядае яна з вялікім неразуменнем усёй гэтай сітуацыі. Пазней я пацікавіўся ў свайго знаёмага з пошукавага батальёна, як магло такое быць? І ён адказаў, што для савецкага часу гэта цалкам натуральная з'ява.

## «Ратункі!»

Нягледзячы на блізкасць да Расіі, вясковыя шумілінцы гавораць збольшага па-беларуску. Сустракаюцца цікавыя словы ці абароты: «малец» — гэта «хлопец», а слова «ратункі!» — «ратуйце!». Але знайсці бабулю, якая праспявала б добрую старадаўнюю беларускую песню, — складана. Спяваць ці ўвогуле адмаўляюцца, ці напяваюць слязлівыя рамансы мінулага стагоддзя. Па словах Сяргея Доўгушава з гурта «Vuraj», адрозненне Шумілінскага раёна ад палескіх вёсак — кардынальнае. «На Палессі зойдзеш у любую хату, і там бабуля заспявае», — кажа ён.

Як вядома, чалавек спявае, калі мае надзею і веру ў будучыню. А зараджаны бацькай атэізму, аддае сябе на зацягванне ў багну будзённых спраў. А потым нават і будзённыя рэчы становяцца абрыдлымі. Куды ўжо тут да спеваў!

Сапраўды, бязвер'е да лепшай долі і да будучыні закранула частку мясцін Беларусі. Але, радуе тое, што сёння можна чуць шчырую народную песню, якую пяюць маладыя галасы з таго ж Студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Ёсць спадзеў, што яна кране і самыя аддаленыя куткі нашай краіны.



**З 1950-х гадоў кожная праграма візіту прадстаўніка каралеўскай сям'і Вялікабрытаніі ў Новую Зеландыю абавязкова ўключае прагляд выканання хака**

# Забараніць хака

Алег НОВІКАЎ

**Кубак свету па рэгбі, што пачаўся ў Вялікабрытаніі, зноў абудзіў дэбаты наконт хака — самай славутай спартыўнай крычалкі ў свеце, якую зборная Новай Зеландыі выконвае ў рытме рытуальнага танца перад пачаткам кожнага матчу.**

«Ударце рукамі па сцёгнах — грудзі наперад — сагніце калені — пастаўце ступню на зямлю так моцна, як толькі магчыма! Гэта смерць! Гэта смерць! Гэта жыццё! Гэта жыццё! Гэта калматы чалавек! Ён запаліў сонца і прымусіў яго свяціцца зноў! Крок наперад! Крок наперад! Сонца ззяе!» Калі перакласці гэту абракадабру на мову народу маоры, і, зрабіўшы жудасную грымасу, рытмічна паскакаць, у выніку атрымаецца тая самая хака — адзін з самых славутых відаў музычнага мастацтва тубыльцаў Новай Зеландыі.

Славутым ва ўсім свеце танец хака зрабіла мясцовая зборная па рэгбі. Ніхто не ведае, нашто падчас першага туру зборнай па стадыёнах Англіі ў 1905 годзе візіцёры перад пачаткам матча выканалі хака. Перформанс «All Blacks» (анл.: «чорныя», мянушка рэгбістаў з Новай Зеландыі) спадабаўся трыбунам. Спадабаўся настолькі, што арганізатары матчаў новазеландцаў пачалі выкарыстоўваць хака для рэкламы спаборніцтваў.

Гэта быў толькі пачатак трыумфальнага шэсця танцу. Хутка яго сталі выконваць вайскоўцы Новай Зеландыі, сябры нацыянальных зборных іншых відаў спорту (танчыць хака ўмудрыюцца нават гульцы мясцовай каманды па хакею на лёдзе). Кожная праграма візіту прадстаўніка каралеўскай сям'і Вялікабрытаніі ў Новую Зеландыю прыкладна з 1950-х гадоў таксама абавязкова ўключае прагляд выканання хака.

Аднак у нашым стагоддзі стаўленне да феномену хака пачало мяняцца. Перш за ўсё, супраць выканання хака ўзняліся абарыгены. На думку лідараў руху маоры, хака ў цяперашнім варыянце — гэта камерцыйная прафанацыя народнай культуры. Лідары маоры лічаць, што хака — гэта не крычалка спартоўцаў на забаву заўзятарам, а сімвал супраціву нацыі супраць культурнай асіміляцыі. Сапраўды, у XIX стагоддзі з боку брытанскіх каланізатараў шмат разоў гучалі заклікі забараніць хака як дзікунства.

Адначасова каманды па рэгбі, што змагаліся супраць новазеландцаў, пачалі скардзіцца на тое, што хака — форма маральнага ціску на суперніка. «Уся гульня рэгбі пабудаваная на ідэі дамінавання аднаго мужчыны над іншым. І выкананне хака выглядае здзекам. Новазеландцы крычаць і пагражаюць вам, і вы павінны стаяць і думаць: «Хм, калі гэта нарэшце закончыцца», — піша адзін з прыхільнікаў забароны хака.

Адначасова прыдумляюць розныя сродкі барацьбы з танцам маоры. Так, кіраўнік англійскай зборнай па рэгбі Рычард Кокрыл у 1997 годзе запрасіў псіхолагаў, якія правялі з яго спартоўцамі спецыяльны семінар наконт таго, як не паддавацца паніцы падчас выканання праціўнікам хака. Трэнеры іншых зборных паспрабавалі распрацаваць свае варыянты ваяўнічага танцу, як гэта зрабіла, напрыклад, зборная Тонга. Некаторыя каманды пачалі дэманстратыўна адварочвацца ад новазеландцаў у той час, калі тыя заводзілі сваё: «Ударце рукамі па сцёгнах». Нарэшце ў 1989 годзе ірландскія рэгбісты паспрабавалі зрабіць пародыю на танец «чорных», намагаючыся хоць нейкім чынам разбурыць псіхіку «чорных».

Да барацьбы супраць хака падключыліся праз нейкі час і фанаты. Так, тыфозі зборнай Англіі спрабавалі спецыяльным калектыўным спевам заглушыць матыў песні пра калматага чалавека. У сеціве хапае старонак, якія жартуюць з хака, каб падарваць дух «чорных» і іх прыхільнікаў.

Нарэшце, некаторыя нацыянальныя федэрацыі рэгбі вырашылі не выдумляць ровар, а проста забараніць хака. Так зрабіла Федэрацыя рэгбі Уэльсу, якая запрасіла да сябе новазеландцаў у 2005 годзе. Гасцям прапанавалі замест хака станчыць або пракрычаць нешта іншае. Хітрыя новазеландцы спачатку пагадзіліся, каб у выніку ўсё роўна выканаць хака.

Аднак галоўную пагрозу для выканання хака нясуць, хутчэй за ўсё, не скаргі трэнераў, а грамадскія актывісты, якія ўплываюць на палітычныя рашэнні. Яны пачалі кампанію, у рамках якой нагадваюць грамадству пра тое, што хака нарадзілася падчас войнаў паміж плямёнамі. Адсюль пытанне: ці можа хака — метафара вайны — быць элементам спартовага руху?

Праблема хака вельмі важная з улікам рэформы нацыянальных сімвалаў, якія праводзіць урад Новай Зеландыі. Як вядома, зараз праходзіць конкурс наконт эскізу новага новазеландскага сцягу. Між тым, шмат хто лічыць, што мяняць таксама трэба гімн. Цяперашні гімн «God defend New Zealand» (анл.: «Бог абараняе Новую Зеландыю»), прыняты ў 1977 годзе, падаецца шмат каму занадта прабрытанскім. Адзінай вартай альтэрнатывай «God defend New Zealand» выступае тая сама хака, якая даўно мае статус нефармальнага гімна.

Тэма хака зноў набыла актуальнасць пасля таго, як 18 верасня ў Англіі пачаўся кубак свету па рэгбі. Нядзіўна, што фанаты «чорных» падазраюць, што за атакамі на хака стаяць праціўнікі «All Blacks». Нагадаем, што зборная Новай Зеландыі лічыцца фаварытам цяперашняга турніру.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Аўтарытарны прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка за 20 гадоў знаходжання ва ўладзе зрабіў сабе рэпутацыю гульца на супярэчнасцях паміж Масквой і Брусэлем, які ўвесь час атрымлівае фінансавую дапамогу і палітычнае прыкрыццё. Аднак пасля рашэння Расіі пабудаваць авіябазу ў Беларусі дні яго лавіравання паміж Расіяй і Захадам і атрымання выгады ад абодвух бакоў могуць скончыцца.

**«Foreign Policy» (ЗША)**

Аўтарытарны тон Лукашэнкі — «апошняга дыктатара ў Еўропе», па словах былога дзяржсакратара ЗША Кандалізы Райс, — не бянтэжыць грамадзян Беларусі. Па дадзеных «World Happiness Report 2015» — даследавання, якое бярэ пад увагу працягласць жыцця, ВУП на душу насельніцтва, узровень карупцыі, паспяховасць свабоды і доступу да сацыяльных паслугаў — Беларусь займае 59-е месца з 158 у рэйтынгу краін, жыхары якіх задаволеныя сваім жыццём. Аднак спакой Лукашэнкі ўсё ж аказаўся парушаны ў апошнія час. Віной таму — Расія. Лёс беларускай эканомікі шмат у чым залежыць ад Расіі. Усё гэта не дазволіла беларускай эканоміцы выпрацаваць імунітэт да наступстваў пагаршэння адносін паміж Расіяй і заходнімі краінамі. Экспарт паваліўся, і валютны крызіс расійскага рубля таксама аказаў уплыў на суседа.

**«Il Caffegeopolitico» (Італія)**

У Беларусі на фоне перадвыбарнай гонкі, вынік якой сёння вядомы ўсім, працягвае павялічвацца плынь прапаганды, галоўнай мэтай якой з'яўляецца спроба супакоіць насельніцтва краіны. Пры гэтым мясцовыя ўлады, не ў прыклад усім мінулым выбарам, сёння абсалютна не хаваюць, што народу трэба забыцца аб усіх ранейшых абяцаннях і жыць днём сённяшнім. Вядома, цяперашняму электарату, якому вось ужо больш за год тлумачаць, што трэба здавольвацца тым, што ёсць, і маліць Бога, што на яго зямлі не ідуць ваенныя дзеянні, сапраўды можа здацца, што сітуацыя ў краіне яшчэ больш-менш, у параўнанні з суседняй Украінай. Аднак нельга не адзначыць, што насельніцтва працягвае жыць у ілюзіях і не хоча бачыць таго, што ўсе словы беларускіх уладаў з'яўляюцца толькі простым падманам, якім прыкрываецца катастрафічная рэчаіснасць.

**«REGNUM» (Расія)**

Пэўныя групы ў Еўрасаюзе разлічваюць праз нармалізацыю адносін з Мінскам апасродкавана паўплываць на яго знешнюю палітыку... Дадзеная канцэпцыя, хоць і глыбока прадуманая, але разам з тым не ўлічвае адну праблему — яна не мае нічога агульнага з рэчаіснасцю, а толькі спрабуе выдаць жаданае за сапраўднае. Перадумовы для магчымага правалу «перазагрузкі» адносінаў з Мінскам утрымліваюцца ў тым, што Беларусь не з'яўляецца нейтральнай краінай, яна застаецца верным саюзнікам Расіі з высокай ступенню залежнасці ад Масквы. Фундаментальнай жа прычынай застаецца недавер элітаў у Маскве і Мінску да Захаду, якія падазраюць яго ў імкненні змяніць рэжым. Рашэнне ЕС нармалізаваць адносіны з Беларуссю на ўмовах Мінска толькі легалізуе рэжым Лукашэнкі і будзе азначаць адступленне ад прынцыпаў еўрапейскай дэмакратыі.

**«Біржавы лідар» (Украіна — Расія)**

Насельніцтва Беларусі ў дваістым становішчы. З аднаго боку, узмацнілася цяга да ідэі незалежнасці як такой. Сама ўлада сёе-тое зрабіла, каб умацаваць гэтыя ідэі ў рамках гульняў з Масквой. Лукашэнка актыўна выкарыстоўваў гістарычныя сюжэты з Вялікім княствам Літоўскім і інш. У наяўнасці імкненне беларусаў, асабліва маладых, да аховы сваёй дзяржаўнасці. З іншага боку, яны бачаць прыклад Украіны, і многія палохаюцца таго, што там адбываецца. Людзі не хочуць грамадзянскага канфлікту. Улада мае магчымасці падаць сітуацыю так: калі вы галасуеце за нас, вы галасуеце за стабільнасць. На гэтых выбарах Лукашэнка застаецца электаральным фаварытам, але паступова сітуацыя для яго і для краіны ўскладняецца, і прастора для манеўру скарачаецца. Можна выказаць здагадку, што, нягледзячы на перамогу з сур'ёзным вынікам, сітуацыя досыць складаная. Наступны яго тэрмін у гэтых умовах будзе найбольш складаным для яго і рэспублікі ў цэлым.

**«Політком» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Наступ талібаў. Першыя каментары

29 верасня афганскія талібы пачалі масіраваны напад адразу з трох бакоў на стратэгічны горад Кундуз у паўночным Афганістане. Зараз у горадзе ідуць баі з удзелам авіяцыі NATO. Між тым, эксперты даюць першыя ацэнкі апошнім падзеям. Сярод каментараў часцей за ўсё можна знайсці наступныя тэзісы. 1. Нават калі ўрадавым часткам атрымаецца ачысціць Кундуз, талібы ўсё роўна могуць запісаць гэтую аперацыю сабе ў актыў — яны правялі ўдалую дэманстрацыю сілы на поўначы краіны, якая ніколі не лічылася іх бастыёнам. Гэта азначае працяг грамадзянскай вайны ў краіне. 2. Радыкальныя афганскія ісламісты з'явіліся ў непасрэднай блізкасці ад межаў СНД — Кундуз знаходзіцца ўсяго ў 70 кіламетрах ад мяжы Таджыкістана, саюзніка Масквы. Расія такім чынам калі не сёння, дык заўтра можа атрымаць новы фронт. 3. ЗША будуць вымушаны зноў заняцца Афганістанам, што дазволіць іх праціўніку Кітаю пашыраць свой уплыў у спрэчных з амерыканцамі рэгіёнах — у краінах Азіі і Афрыкі. Урэшце, у амерыканскія палітычныя дэбаты вяртаецца «афганская тэма». Ястрабы-рэспубліканцы дакладна будуць патрабаваць вяртання ў Афганістан амерыканскага вайсковага корпусу, што наўрад ці спадабаецца электарату перад выбарамі прэзідэнта ў 2016 годзе.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### Кэмеран пракаментаваў «PigGate»

Брытанскі прэм'ер Дэвід Кэмеран нарэшце пракаментаваў «PigGate», — скандал, выкліканы публікацыяй фрагментаў кнігі яго былога аднакурсніка. Калі верыць аўтару, малады Дэвід быў яшчэ тым хуліганам: падчас нейкага студэнцкага рытуалу ён паклаў інтымную частку цела ў рот дохлай свінні. Успаміны сталі бомбай і паўплывалі на імідж прэм'ера, які намагаецца рабіць сабе рэнамэ абаронцы кансерватыўнай сямейнай маралі. Падхапілі гэтую гісторыю і апазіцыянеры-лейбарысты, якія пачалі называць кансерватараў «партыяй дохлых свінняў». Сам Кэмеран пасля выбуху скандалу адмаўляўся даваць каментары. Аднак падчас Генасамблеі ААН журналісты яго дасталі. Па яго словах, «кожны мае права пісаць кнігі, а яго задача — рабіць працу прэм'ера, і ён вельмі заняты». Цяжка казаць, ці супакоіў брытанцаў такі адказ, бо сёння яны жывуць Кубкам свету па рэгбі. Аднак наўрад ці пра «PigGate» забудуць: кніга з'явіцца ў крамах у кастрычніку.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Ці будзе АДКБ ваяваць за Арменію?

Адным з наступстваў цяперашняй эскалацыі ў Карабаху, дзе армянскія і азербайджанскія войскі пачалі весці артдуэлі, стала цікавая дыскусія ў Арменіі. Грамадства пытаецца ва ўлады: чаму на дапамогу Арменіі не прыходзяць партнёры з АДКБ — васкойва-палітычнай арганізацыі, куды ўваходзяць акрамя Арменіі Расія, Беларусь, Таджыкістан, Кіргізія, Узбекістан і Казахстан. Паводле статутных дакументаў АДКБ, у выпадку вонкавага нападу на аднаго з сябраў аб'яднання, удзельнікі альянсу павінны прыйсці яму на дапамогу. Аднак пакуль ніводнай заявы адносна канфлікту ў Карабаху з боку АДКБ не прагучала. Цяпер армянскія ўлады, якія ўцягнулі краіну ў аб'яднанне, вымушаныя апраўдвацца. «Пакуль няма неабходнасці ўводу міратворчых сіл АДКБ або якой-небудзь іншай структуры ў Арменію. Мы сёння цалкам можам справіцца з тымі праблемамі, якія нам стварае наш сусед Азербайджан», — кажа кіраўнік штабу армянскіх войскаў, хаця ён адначасова прызнаў, што «рэакцыю ў якасці падтрымкі АДКБ хацелася б пачуць».

**Паводле армянскай прэсы**

### Іран крытыкуе Эль-Рыяд за хадж

Трагедыя 24 верасня ў Мецы, дзе ў цісканіне загінула больш за 700 пілігрымаў, выклікала перапалку паміж Іранам і Саудаўскай Аравіяй. Напярэдадні пахавання 30 верасня 224 іранскіх грамадзян, што загінулі ў Мецы, мясцовыя медыі пачалі інфармацыйную атаку на ўлады Саудаўскай Аравіі. Арабаў крытыкуюць за кепскую бяспеку падчас хаджу, аднак гучаць і версіі пра арганізаваную антыіранскую правакацыю. Падставай для гэтага стала смерць у натоўпе пасла Ірана ў Ліване, які нефармальна каардынаваў дзейнасць лакальнай групоўкі Hezbollah, што арыентуецца на Іран. З улікам таго, што Hezbollah грае важную ролю ў барацьбе з сірыйскай апазіцыяй, якую таксама падтрымлівае Саудаўская Аравія, смерць дыпламата выглядае шмат каму падазронай. Так ці інакш, справа можа выйсці за межы медыякампаніі. У іранскай прэсе ўсё часцей заклікаюць Тэгеран патрабаваць ад Эль-Рыяду фінансавай кампенсацыі для ахвяраў або падаць іск у Міжнародны суд.

**Паводле французскай прэсы**



# Балівія супраць Чылі

Алег НОВІКАЎ

**24 верасня Міжнародны суд у Гаазе пагадзіўся ўзяць на разгляд іск Балівіі, якая намагаецца адсудзіць назад у Чылі захопленую ёй у XIX стагоддзі частку балівійскай тэрыторыі.**

Створаная ў 1946 годзе пад патранатам ААН установа ў Гаазе не першы раз будзе разглядаць тэрытарыяльныя пытанні. Сярод 161 справы, якімі займаліся суддзі на працягу існавання арганізацыі, каля тузіну былі так ці інакш звязаныя з памежнымі спрэчкамі.

Думаецца, найбольш буйной была справа пра сальвадорска-гандураскі кардон. У 1992 годзе гаагская Феміда паклала канец канфлікту паміж Сальвадорам і Гандурасам наконт сухапутных і марскіх межаў і межаў паміж выспамі. Спрэчка цягнулася аж 90 гадоў і была настолькі моцнай, што футбольны матч паміж камандамі гэтых дзвюх краін у 1969 годзе прывёў да кароткай, але кровапралітнай т.зв. «футбольнай вайны».

У часы «халоднай вайны» ў Гаазе ЗША ініцыявалі чатыры працэсы супраць СССР. Усе яны тычыліся паветраных інцыдэнтаў з амерыканскімі ваеннымі самалётамі. У дачыненні да кожнага з іскаў суд прыняў аднолькавае рашэнне, сутнасць якога была ў тым, што ён не валодае неабходнай юрысдыкцыяй і на гэтай падставе ў разглядзе справы адмаўляе. У 2009 годзе суд вынес кампрамісную пастанову па іску Румыніі да Украіны, якая тычылася падзелу шэльфу Чорнага мора.

Аднак справа па тэрытарыяльнаму канфлікту паміж Балівіяй і Чылі абяцае быць унікальнай. Па-першае, суд мусіць вывучыць усе аспекты даўняй вайны, па выніках якой Балівія была пазбаўленая прыкладна 300 кіламетраў цiхаакіянскага ўзбярэжжа (яго вяртання і патрабуе Ла-Пас)

Вайна, нагадаем, пачалася з-за карысных выкапняў. Чылі хацела захапіць радовішча салітэры ў перуанскай і балівійскай частках пустыні Атакама, якія належалі чылійскай кампаніі. У лютым 1879 войскі Чылі напалі на Балівію. Перу мела з Балівіяй дагавор аб узаемадапамозе, таму ўступіла ў вайну ў красавіку




таго ж года. Аднак пануючыя на моры, чылійцы захапілі ініцыятыву. У 1883 годзе Перу і ў 1884-м Балівія прызналі паразу. Паводле дамовы паміж Чылі і Балівіяй, апошняя пазбаўлялася вобласці Антафагаста (Antofagasta) і, адпаведна, выхаду да мора.

Нягледзячы на тое, што ў дамове ад 1904 года страта Балівіяй выхаду да мора была яшчэ раз зафіксаваная, балівійцы ўвесь час марылі пра вяртанне тэрыторыі. Так, на ваенна-марскім сцягу Балівіі, які ўжываецца цяпер толькі на рачным флоце, засталася вялікая зорка ў памяць пра падзеі 1879–1884 гадоў. Часам падавалася, што вайна паміж дзяржавамі проста непазбежная. Напрыклад, вельмі напружаныя адносіны паміж Санцьяга і Ла-Пасам назіраліся на пачатку 1970-х гадоў, калі дыпламатычныя адносіны былі згорнутыя да мінімуму. Напружанасць разрадзіў путч Піначэта, які хутка дамовіўся з балівійскім калегам-дыктатарам. У якасці бонусу Балівія тады атрымала частку аднаго з чылійскіх партоў.

Новая серыя барацьбы за выхад да акіяну пачалася прыкладна 5 гадоў таму. Першы ў балівійскай гісторыі чырванаскуры прэзідэнт Эва Маралес пачаў міжнародную кампанію за рэвізію існуючай мяжы. У яе рамках у красавіку 2013 года ў Міжнародны суд у Гаазе быў пададзены адпаведны іск на адрас Чылі. Амаль два з паловай гады суддзі ламалі галаву, што рабіць са скаргай. Нарэшце 24 верасня вырашылі, што кампетэнтныя яе разгледзець.

Навіны з Гаагі справакавалі патрыятычны ўздым у Балівіі, дзе рашэнне суддзяў разглядаюць як вялікую перамогу. Прэзідэнт Маралес у спецыяльным выступе назваў 24 верасня «гістарычным днём, які будуць памятаць усе балівійцы». А таксама падкрэсліў, што рашэнне суда з'яўляецца важным крокам у вяртанні да ў Ціхага акіяна. На вуліцах балівійскіх гарадоў усю ноч святкавалі «гістарычны дзень». Найбольш патрыятычна заклапочаныя балівійцы стыхійна выехалі на чылійскую мяжу, каб арганізаваць там музычную какафонію.

Абсалютная кантрастныя настроі пануюць пасля паведамленняў з Гаагі па той бок балівійска-чылійскай мяжы. Чылійская грамадскасць раз'юшаная пастановай суду. Прэзідэнт краіны Мішэль Бачэлет катэгарычна заявіла, што «гаагскія вердыкты ніякім чынам не паўплываюць на тэрытарыяльнае адзінства Чылі». Ужо відавочна, што ў ходзе будучага працэсу чылійскі бок будзе спасылацца на дамову 1904 года, дзе Балівія афіцыйна прызнае пасляваенныя межы з Чылі. На думку чылійцаў, спрабаваць вярнуць межы XIX стагоддзя — нонсэнс і небяспечны прававы прэцэдэнт. Чылійцы таксама лічаць, што карэнныя жыхары Антафагаста не марыць стаць грамадзянамі Балівіі, дзе ўзровень жыцця ў тры разы ніжэйшы за чылійскі. Нарэшце, Чылі здольная проста адмовіцца прызнаваць абавязковую юрысдыкцыю суду, як, напрыклад, зрабілі ЗША ў 1984-м. Тады гаагскія судзі заклікалі ЗША не рабіць замахаў на суверэнітэт Нікарагуа, дзе яны падтрымлівалі вайсковую апазіцыю.

Прэса асцярожна разглядае перспектывы гэтай судовай справы. Па-першае, шукаючы кампраміс, суддзі могуць запатрабаваць, каб Чылі і Балівія пачалі дыялог, што па сутнасці не мае ніякіх прававых наступстваў. Таксама не выключаюць, што Чылі будзе зацягваць справу або шукаць юрыдычныя тонкасці, якія дазволяць аспрэчыць правамоцнасць балівійскай скаргі. Такіх выпадкаў у гісторыі Гаагскага суда хапае. Напрыклад, у 2008–2011 гадах у судзе быў разгледжаны іск Грузіі супраць Расіі, якая, на думку грузінаў, праз падкантрольныя ёй структуры Абхазіі і Паўднёвай Асеціі ажыццяўляла дыскрымінацыю грузінскага насельніцтва ў гэтых рэспубліках. Трохгадовая цяганіна закончылася дэ-факта нічым. Суд пастанавіў, што ён не валодае юрысдыкцыяй для разгляду заявы, пададзенай Грузіяй, паколькі Тбілісі не выканаў нейкую дасудовую працэдуру.

З іншага боку, калі Чылі даб'ецца выйграша для сябе рашэнне ў Гаазе, наўрад ці гісторыя барацьбы Балівіі за вяртанне выхаду да акіяну закончыцца.

# Каталонія. Незалежнасць або фарс?

Алег НОВІКАЎ




**Вынікі выбараў 27 верасня ў каталонскі парламент аказаліся адначасова перамогай і паразай для мясцовых нацыяналістаў. Незалежніцкія партыі атрымалі большасць у парламенце, гэтага фармальна дастаткова для таго, каб зрабіць наступны крок — напрыклад, абвясціць дату рэферэндуму пра выхад са складу Іспаніі.**

З іншага боку, тыя, хто ў Каталоніі галасаваў за незалежнасць, па выніках выбараў 27 верасня аказаліся ў меншасці (47,8 працэнта ад усіх выбаршчыкаў). Натуральна, гэтая акалічнасць актыўна выкарыстоўваецца мадрыдскай партыяй, якая намагаецца трактаваць галасаванне як плебісцыт па пытанні незалежнасці.

У любым выпадку, найперш, чым рабіць якія-небудзь крокі наперад, нацыяналісты павінны дасягнуць як мінімум тактычнага адзінства. Лагер прыхільнікаў незалежнай Каталоніі ў парламенце складаецца з кааліцыі «Junts pel Si» («Разам за «Так»), куды ўваходзяць левацэнтрысцкая «Каталонская рэспубліканская левая» (ERC) і ліберальна-нацыяналістычная партыя «Дэмакратычная канвергенцыя Каталоніі» (CDC) плюс яшчэ некалькі структур. Па-за межамі згаданага блоку знаходзіцца партыя «Кандыдатура народнага адзінства» (CUP), якой перапала пасля выбараў 10 мандатаў. Аднак іх кошт пры цяперашнім раскладзе ў парламенце цяжка пераацаніць. Без падтрымкі фракцыі CUP, група «Junts pel Si» (62 дэпутата) не мае парламенцкай большасці і фактычна паралізаваная ў рэалізацыі сваіх амбіцыйных праэктаў.

Знайсці кансенсус абодвум палітычным актарам будзе вельмі цяжка з улікам феномену CUP. Пра эксцэнтрычны характар арганізацыі сведчыць рэакцыя на вынікі галасавання 27 верасня. Антонія Баньос, які быў першым нумарам у выбарчым спісе «Кандыдатуры народнага адзінства» на выбарах, адразу пасля падліку галасоў абвясціў пра выхад рэгіёна са складу Іспаніі, а таксама заклікаў суайчыннікаў больш не падпарадкоўвацца законам, што пішуць у Мадрыдзе.

Каб зразумець прычыны незвычайнага радыкалізму «антыкапіталістаў» (так называюць CUP у іспанскай прэсе), трэба ўзгадаць біяграфію руху. «Кандыдатура народнага адзінства» нарадзілася ў 1980-я гады, праз нейкі час пасля краху дыктатуры Франка як праект адной з фракцый каталонскіх левых нацыяналістаў. Арыенціры руху складающца з 4 пунктаў: незалежнасць Каталоніі, сацыялізм, экалогія, абарона мовы і культуры. У Каталоніі такія погляды падзяляюць практычна ўсе левыя нацыяналістычныя аб'яднанні.

Выжыць у суровай канкурэнцыі CUP дапамагло тое, што структура працуе прынцыпова

**48%**

**ад усіх выбаршчыкаў у Каталоніі прагаласавалі за незалежнасць. То бок фактычна яны аказаліся ў меншасці**

на муніцыпальным узроўні, што дапамагло інтэграваць у праект шмат сялянскіх і экалагічных ініцыятыў. Увогуле, партыя лічыць, што сапраўдная дэмакратыя магчымая выключна на муніцыпальным узроўні, паколькі можа кантралявацца знізу. Напрыклад, гэта дазваляе грамадзянам апаратыўна адклікаць дэпутатаў.

Толькі атрымаўшы сталую сацыяльную базу на месцах, «Кандыдатура народнага адзінства» пачала змагацца за мандаты ў рэгіянальным парламенце. Тое, што яна нарэшце трапіла туды ў 2012 годзе, шмат у чым звязана з двума фактарамі. Прыкладна 10 гадоў таму нацыяналістычная супольнасць Каталоніі знаходзілася ў стане фрустрацыі, якую выклікала слабае міністэрства Паскуаля Марагаля, у склад ураду якога ўваходзіла ERC — гістарычна самая моцная партыя каталонскіх незалежнікаў. Шмат нацыяналістычнай моладзі ў той час кінулася шукаць новыя партыйныя прапіскі, у тым ліку і ў CUP.

Па-другое, у 2008 годзе ў Іспаніі пачаўся банкаўскі і іпатэчны крызіс, што спрыяла росту інтарэсу да радыкальных палітычных праграм. Як следства, «антыкапіталісты» і іншыя, перш за ўсё левыя радыкальныя партыі, прарваліся ў выбарчыя органы, уплываючы на фармаванне палітычнай павесткі дня.

Пры гэтым этыка і каштоўнасці новай хвалі іспанскіх радыкалаў цяжка ўпісваюцца ў нормы старога палітэтыкету. Напрыклад, паміж «Junts pel Si» і CUP адсутнічае адзінства поглядаў на формулу дасягнення незалежнасці. «Junts pel Si» прапануе мірны развод з Мадрыдам, які будзе цягнуцца 18 месяцаў. Паводле гэтай дарожнай карты, у 2017 годзе Каталонія стане незалежнай. Заставацца ў прававым полі вельмі важна для партый істэблішменту, паколькі ад гэтага залежыць стаўленне да каталонскага праекту з боку Брусэля. У сваю чаргу, CUP лічыць, што трэба паставіць Мадрыд перад фактам, што і было часткова зроблена 27 верасня праз заклік да непадпарадкавання іспанскім законам.

Пакуль не зразумела, наколькі сур'ёзны дэмарш CUP наконт выхаду Каталоніі са складу Іспаніі. Калі верыць рэпартажам, пакуль «выхад» абмежаваны танцамі моладзі каля офісаў CUP і фуршэтамі ў барах. Сур'ёзныя выданні, накшталт «El Pais», пішуць, што пытанне абвяшчэння незалежнасці адкладаецца да парламенцкіх выбараў у Іспаніі.

Між тым, каментатары на інтэрнэт-форумах цынічна пішуць, што пытанне незалежнасці адкладваецца да тых часоў, пакуль футбольны клуб «Барселона» будзе заставацца галоўным грандам еўрапейскага футболу (барселонскі клуб — пераможца апошняй Лігі чэмпіёнаў). Каталонцы не гатовыя да незалежнасці, паколькі ў такім выпадку «Барселона» будзе вымушаная пакінуць іспанскую лігу, наступствам чаго стане падзенне якасці гульні каманды.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сцяпан Палтарак



Міністр абароны Украіны прыняў рашэнне аднавіць закінуты вайсковы гарадок у Івана-Франкоўскай вобласці. Там цяпер будзе знаходзіцца вайсковая частка з тысячай чалавек. Гэты крок мала хто заўважыў, пакуль вайскоўцы не растлумачылі задачу фармавання, якое плануецца стварыць да канца восені. Яго задача — абарона рэгіёна ад магчымых замахаў на украінскую тэрыторыю з боку Румыніі. На думку палітолагаў, падобныя заявы сведчаць пра тое, што ў Кіеве ўсур'ёз ставяцца да магчымага абвастрэнне румынскага і венгерскага пытанняў. У перыяд крымскіх падзей у Румыніі, як і ў Венгрыі, узнялі сцяг палітычныя сілы, якія прэтэндуюць на тыя ўкраінскія землі, дзе кампактна жывуць венгры і румыны. У мінулым годзе гучалі патрабаванні надаць згаданым этнасам нацыянальныя аўтаноміі. З улікам актуальнасці праблемы бежанцаў, у Венгрыі атрымалі імпульс для росту мясцовыя праварадыкалы, якія часцей за ўсё агучваюць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Кіева. На думку экспертаў, лепш высветліць узровень сепаратызму ў гэтым рэгіёне дапамогуць вынікі мясцовых выбараў, якія пройдуць ва Украіне 25 кастрычніка. Яны акцэнтуюць увагу на тым, што ў Закарпацці правенгерскі палітыкум упершыню за часы незалежнасці спрабуе выступаць адзіным блокам. На пачатку верасня на сустрэчы дзвюх вядомых венгерскіх партый было прынята рашэнне аб фармаванні адзінага выбарчага спісу.

### Хайнц-Крысціян Штрахе



Хайнц — лідар аўстрыйскай правапапулісцкай «Партыі свабоды» (OVP), якая заняла другое месца на выбарах у рэгіянальны парламент у зямлі Верхняя Аўстрыя, атрымаўшы 30 працэнтаў галасоў. Гэта былі першыя выбары ў еўрапейскай краіне, якая сутыкнулася з міграцыйным крызісам. Вынікі выбараў відавочна дэманструюць, што крызіс імігрантаў дае глебу для пашырэння ўплыву правых партый і, адпаведна, адчыняе ім доступ у вялікую палітыку. Так, OVP удвая павялічыла колькасць галасоў на згаданых выбарах у Верхняй Аўстрыі. Цяпер усе чакаюць вынікаў выбараў мэра Вены, якія прызначаныя на 11 кастрычніка. Ад OVP тут балатуецца Хайнц Штрахе. Як піша мясцовая прэса, добры працэнт на выбарах у сталіцы можа стаць першай прыступкай на шляху Штрахе да пасады канцлера. Праўда, у Аўстрыі існуе нефармальны блок кансерватараў і эсдэкаў, якія дамовіліся ніколі не ўступаць у кааліцыю OVP, якая дагэтуль была не ў стане сфармаваць аднапартыйны кабінет. Каментуючы вынікі галасавання ў Верхняй Аўстрыі, абедзве партыі паабяцалі працягваць лінію на блакаду OVP. Праўда, у чэрвені прынцып быў парушаны, калі ў адной з земляў сацыял-дэмакраты запрасілі аднапартыйцаў Штрахе кіраваць разам.

### Сяргей Леўчанка



Новым губернатарам Іркуцкай вобласці стаў прадстаўнік Кампартыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ), атрымаўшы ў другім туры 56 працэнтаў галасоў. Сяргей Ярошчанка, канкурэнт Леўчанкі, вылучаны «Адзінай Расіяй», атрымаў 41,46% галасоў. Выбары ў Іркуцку сталі федэральнай падзеяй, паколькі Ярошчанка актыўна выкарыстоўваў адміністратыўны рэсурс. Губернатарская пасада Леўчанкі — самы вялікі поспех на верасноўскіх мясцовых выбарах для партый, якія канкуруюць з праўладнай «Адзінай Расіяй». Натуральна, палітолагаў цікавіць, чаму людзі аддалі перавагу камуністу. Найбольш распаўсюджаная версія — патрыятычны ўгар, выкліканы крымскімі падзеямі, паступова знікае. Як следства, на першае месца выходзяць сацыяльна-эканамічныя тэмы, на якіх актыўна гуляў Леўчанка. Адсюль абсалютны нонсенс, калі электаратам камуністаў у Іркуцку сталі жыхары гарадоў, а вёска галасавала за адзінаросаў. Некаторыя каментатары лічаць, што на хвалі расчаравання «Адзінай Расіяй» камуністы могуць стварыць у Сібіры нават цэлы «чырвоны пояс» (для даведкі: у Сібіры на гэтых выбарах камуністы сабралі каля 30 працэнтаў). З іншага боку, цяжка зразумець, як рэнесанс камуністаў у Сібіры глабальна паўплывае на трэнды ў краіне. Насуперак рэвалюцыйнай рыторыцы, КПРФ Зюганава заўсёды была кішэннай партыяй Крамля.



Пасол Георге Хіаарэ, Алесь Кашкурэвіч і яго жонка Ганна



Спяваюць Васіль з жонкай Нінай



Антаніна Валько за раздачай мамалыгі

# Малдаванін, які паважае беларусаў і нашу мову, або «Вянок сяброўства»

Лявон ЦЕЛЕШ

**Многія з тых, хто прыехаў з іншых краін у Беларусь, жывучы тут працяглы час, так і не засвоілі нашых звычаяў, цураюцца беларускай мовы. Але ёсць сярод іх і прыемныя выключэнні. Малдаванін Васіль Семянюк за непрацяглы час жыцця на нашай зямлі зрабіўся амаль малдаўскім беларусам, або беларускім малдаванінам.**



Весела спяваецца пад музыку Антося Анісовіча



Госці свята

У верасні вось ужо пяты год запар падвор'е Васіля Міхайлавіча Семенюка, што знаходзіцца ў вёсцы Баравікі Дзяржынскага раёна, расквечваецца нацыянальнымі малдаўскімі і беларускімі колеры, гучаць песні абедзвюх краін, госці ў нацыянальных малдаўскіх і беларускіх строях танчаць беларускія полькі і палымяную малдаваняску. Гучаць напеўныя беларуская і малдаўская мовы, на святочных сталах беларускія дранікі і малдаўская мамалыга…

Так у звычайнай беларускай вёсцы, дзякуючы намаганням дружнай беларуска-малдаўскай сям'і Семенюкоў — Васіля Міхайлавіча і Ніны Сцяпанаўны — праходзіць свята беларуска-малдаўскай дружбы, якое атрымала цудоўную назву — «Вянок сяброўства». Прысвячаецца свята і Дню незалежнасці Малдовы, і малдаўскай мове, і маладому віну — усяму таму, што блізка сэрцу кожнага малдаваніна.

Сваім удзелам свята заўсёды падтрымліваюць пасольства Рэспублікі Малдовы ў Беларусі на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Георге Хіаарэ, а таксама прадстаўнікі грамадскага аб'яднання малдаван у Рэспубліцы Беларусь на чале са старшынёй Антанінай Валько. Для ўсіх іх — Дзмітрыя Ліку, Георгія Пушкаша, Мікалая Фёдарава, Ганны Казлоўскай і іншых — Беларусь стала другой радзімай.

Нарадзіўся Васіль Семянюк у Заходняй Сібіры, куды сям'я Міхала Орака, яго бацькі, была выслана з роднай Малдовы як сям'я ворага народа. Бацькі Васіля далі яму прозвішча маці, іначай прозвішча «ворага народа» магло б адмоўна адбіцца на яго жыццёвым шляху. Адслужыў Васіль тэрміновую воінскую службу, скончыў у Малдове тэхнікум сувязі, а ў Львове — сельскагаспадарчы інстытут. У гэтым жа горадзе ён сустрэў і свае каханне — беларуску Ніну Сцяпанаўну Сойку, з якой у хуткім часе пабраўся шлюбам.

Пасяліліся маладыя на радзіме Васіля, але калі ў іх пайшлі адзін за другім сыны — Дзяніс, Міша і Саша, жыць у дзедавай хаце стала не вельмі ўтульна, і яны перасяліліся ў вёску Баравікі, дзе жыла сястра Ніны — Таня. Кіраўніцтва былога калгаса «Праўда» стварыла ўсе ўмовы, каб маладая сям'я прыжылася на беларускай зямлі.

Сваю сядзібу Васіль Семянюк разам з сынамі адбудавалі ў малдаўскім стылі, з вінаграднікам і пладовымі высокаўраджайнымі дрэвамі. Працуючы тэлеграфістам, Васіль Семянюк забяспечваў бесперабойную сувязь у 21 вёсцы, куды дабіраўся амаль заўсёды пехам. У час пераходаў ад адной вёскі да другой ён уважліва прыглядаўся пад ногі і збіраў цікавыя камяні, з якіх на сваім падворку стварыў цэлую калекцыю.

Разам са сваёй жонкай Нінай Сцяпанаўнай Васіль паспяхова выступае ў складзе народнага калектыву — ансамбля «Баравічанка». У рэпертуары ансамбля ёсць і некалькі песень на беларускай мове, аўтарам слоў і музыкі якіх з'яўляецца Васіль. Амаль на кожнае вясновае малдаўскае свята «Мэрцішор» яго і жонку Ніну запрашаюць прыняць удзел. У складзе ансамбля «Баравічанка» Семенюкі выступалі на сцэнічных пляцоўках Гродна, Маладзечна, Дзяржынска…

Апошнім часам байкі і гумарэскі на беларускай мове малдаваніна Васіля Семенюка пачалі з'яўляцца і на старонках часопіса «Вожык». Друкуе яго творы і раённая газета «Узвышша», а ўдзельнікі літаратурнага аб'яднання «Выток» пры Дзяржынскай Цэнтральнай раённай бібліятэцы прынялі Васіля ў свае шэрагі. Неяк у гутарцы ён мне прызнаўся, што яму лягчэй пісаць на беларускай, чым на рускай мове, бо «надта ж сакавітая беларуская мова».

Вылучыўся Васіль Семянюк і як мастак-партрэтыст. На яго рахунку партрэты выдатных людзей Беларусі і Малдовы: Ефрасінні Полацкай, Міколы Гусоўскага, Вялікага князя Вітаўта, Тадэвуша Касцюшкі, Вялікага князя Малдовы Штэфана чэл Марэ, Марыі Біешу, Міхая Эмінэску.

Ведаюць Васіля на Дзяржыншчыне і як краязнаўца. Наведваючы вёскі, ён распытвае старажылаў пра ваенныя падзеі, геаічныя ўчынкі вайскоўцаў, а іх успаміны запісвае: некаторыя з успамінаў друкаваліся ў раённай газеце «Узвышша».

Тонкая, рамантычная душа Васіля Семенюка таму пацягнулася да творчасці, да песень і вершаў, што яму тут добра. Дарэчы, і вінаград на яго сядзібе выспявае такі смачны і салодкі, як у Малдове.

Не так даўно на гасціннай сядзібе Семенюкоў адбылося чарговае свята «Вянок сяброўства». На гэты раз сярод пачэсных гасцей свята, акрамя пасла Малдовы спадара Георге Хіаарэ, на свяце прысутнічаў пасол Рэспублікі Румынія ў Рэспубліцы Беларусі спадар Сорын Малдаван.

Паэты Дзяржыншчыны, удзельнікі літаратурнага аб'яднання «Выток» Рэгіна Рэўтовіч, Людміла Круглік, Антон Анісовіч прачыталі прысутным свае беларускамоўныя вершы, а пасол Румыніі па-майстэрску выканаў на акардэоне вальс «Дунайскія хвалі».

Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», вядомы беларускі мастак-карыкатурыст Алесь Кашкурэвіч прыехаў на свята разам з жонкай Ганнай і раздаў прысутным шмат экземпляраў часопіса «Вожык». Дарэчы, усе вышэйназваныя дзяржынскія паэты, як і Васіль Семянюк, з'яўляюцца актыўнымі «вожыкаўцамі», часопіс з ахвотай друкуе іхнія байкі і гумарэскі.

На свяце прыгадалі карані даўняй дружбы беларускага і малдаўскага народаў. Яшчэ ў 1374 годзе сын навагрудскага князя Карыята Юрый быў запрошаны на пасад гаспадара Малдовы, а ў 1399 годзе ў бітве войскаў ВКЛ на чале з Вітаўтам супраць татараў Залатой Арды на баку нашых продкаў ваявалі малдаване. У 1410 годзе на Грунвальдскай бітве нашы продкі былі побач: на баку саюзных войскаў пад кіраўніцтвам вялікага князя Вітаўта і караля Польшчы Ягайлы ваявалі і малдаўскія сечкары — у атрадах нацыянальнага героя Чэхіі Яна Жыжкі.

Можна прыгадаць і падзеі Вялікай Айчыннай вайны, калі нашым народам давялося ваяваць поплеч. Бацька пасла Малдовы, Мікалай Георгіевіч Хіаарэ, удзельнічаў у вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і сваё першае баявое хрышчэнне атрымаў, вызваляючы Бабруйск. Пазней ён прайшоў да Берліна, а яго геraізм і мужнасць былі адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі.

Наш зямляк, ураджэнец Клімавіцкага раёна Дзмітрый Жмуроўскі, за геразім, праяўлены пры вызваленні Малдовы, быў узнагароджаны ганаровым званнем Героя Савецкага Саюза. Некалі мне, студэнту Белдзяржуніверсітэта, даводзілася слухаць лекцыі па гісторыі прафесара Дзмітрыя Жмуроўскага і здаваць яму экзамены. Вось так, быццам дзве вінаградныя лазы, перапляліся лёсы беларускага і малдаўскага народаў.

Вершы, песні чаргаваліся з іскрамётнымі беларускімі і малдаўскімі танцамі. Акампаніяваў на баяне сапраўдны віртуоз, паэт Антось Анісовіч, які з'яўляецца таксама ўдзельнікам ансамбля народнай песні «Гуляначка». Прыгожыя малдаўскія і беларускія строі на ўдзельніках свята стварылі непаўторны каларыт, як колеры ў вясёлцы. І якія б ні былі ў будучым адносіны паміж беларускім і малдаўскім урадамі, нам, жыхарам абедзвюх краін, трэба ўвесь час падтрымліваць сяброўскія адносіны.

***P.S.** Неяк я паабяцаў цудоўнаму чалавеку, зараз нябожчыку, былому галоўнаму рэдактару газеты «Новы Час» Аляксею Каралю напісаць пра свайго знаёмага, малдаваніна Васіля Семенюка. Хаця са спазненнем, але я выконваю абяцанне, дадзенае Аляксею Сцяпанавічу. Свой артыкул я прысвячаю яго светлай памяці.*

# «МЫ, БРАТЫ...»

## Афіцыйны адказ на «Вышэй за неба» і «Жыве Беларусь!»?

Валярына КУСТАВА

Адбылася афіцыйная прэм'ера беларускага поўнаметражнага мастацкага фільма Сяргея Ждановіча «Мы, браты...» (вядомага публіцы пад назвай «Авель»). Цяпер карціну «Nonstop MEDIA» пры патранажы Міністэрстве культуры Беларусі змогуць ацаніць і звычайныя беларусы. Што знакава — першыя паказы пройдуць у сталічным кінатэатры «Масква» 4 кастрычніка. У замежны пракат беларускі фільм «Мы, браты...» выйдзе пад назвай «The Code of Cain» («Код Каіна»).

Муж запрасіў мяне на спецыфічнае спатканне 4 кастрычніка — прынёс дамоў два квіткі па 50 000 кожны на 9 шэраг на «новую нацыянальную прэм'еру». Кажа, што там паказваюць разгон «Плошчы» ў адказ на «Жыве Беларусь!», а таксама здымаецца Эрык Робертс і Аляксей Серабракоў. Думаю, акурат гэтыя моманты і прыцягнуць асноўную аўдыторыю да фільма. Ну і так — нездарма ж яго рабілі тры гады і называюць першым нацыянальным кінапраектам сучаснай Беларусі.

Цяпер менавіта яго пачнуць параўноўваць з «Вышэй за неба» Дзмітрыя Марыніна і Андрэя Курэйчыка і «Жыве Беларусь!» Крыштафа Лукашэвіча і Франака Вячоркі. А каб аналізаваць было прасцей — вашай увазе параўнаўчы аналіз самых нашумелых беларускіх прэм'ераў апошняй кінапацігодкі ад іх жа стваральнікаў Андрэя Курэйчыка і Кшыштафа Лукашэвіча.



***Хто аўтар ідэі фільма?***

*Андрэй Курэйчык, «Вышэй за неба»:*

— Ідэю зняць прафілактычнае кіно прапанавала ПРААН. Ідэя сцэнара — мая і сыходзіць каранямі ў п'есу «Неба», пастаўленую ў Варшаве. Галоўнага героя там таксама клічуць Мікіта Міцкевіч. Гэта прататып героя фільма.

*Кшыштаф Лукашэвіч, «Жыве Беларусь!»:*

— Я аўтар ідэі фільма. Я лічу, што гісторыя Франака Вячоркі — гэта моцны прыклад таго, як можна змагацца за пашырэнне грамадзянскіх правоў і ўласнай годнасці звычайных беларусаў метадам «маленькіх крокаў».

***Назавіце якія-небудзь лічбы праглядаў.***

*Андрэй Курэйчык:*

— Было каля 10 фестывальных паказаў у кінатэатрах, але шырокага пракату не было — заказчык забараніў фільм. У інтэрнэце фільм пaглядзела больш за 350 тысяч чалавек. З іх каля 150 тысяч на «YouTube», (фільм знішчалі там 7 разоў). Каля 50 тысяч — у «ВКонтакте». Больш за 10 тысяч — на «Яндэкс.Відэа». Астатняе ў торэнтах і анлайн-кінатэатрах. Колькасць людзей, што паглядзелі за першы ўік-энд, — 40 тысяч, першы тыдзень — 60 тысяч, за два тыдні — 90 тысяч чалавек.

Усяго выпушчана 4 трэйлеры, 3 афіцыйных кліпы і каля 50 ролікаў рознага кантэнту. Агульная колькасць праглядаў — каля 200 тысяч. З іх найбольш папулярныя: кліп Вінцэнта «Ні кроку назад» — больш за 40 тысяч праглядаў, і трэйлеры — у сярэднім па 30 тысяч праглядаў кожны.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Праглядальнасць у кінатэатрах у Польшчы была невялікая. На «YouTube», паводле падлікаў Франака Вячоркі, было каля 300 тысяч праглядаў з Беларусі і каля 170 тысяч з Украіны. Франак мае таксама статыстыку расійскіх парталаў і праглядальнасці фільму карыстальнікамі інтэрнэту з Расіі.

Паводле "Газеты Выборчай", за першыя 3 дні пасля таго, як фільм з'явіўся на «YouTube», яго ўбачылі каля 50 тысяч гледачоў.

У жніўні на «YouTube» 81+14+34 = 129 тысяч, «ВКонтакте» —12+9+32+36+2+19+3 = 113 тысяч, ex.ua — 40–60 тысяч, torrents all — 40–70 тысяч. Разам: каля 330 тысяч — гэта самы пачатак, запуск. З «YouTube» і замежных парталаў фільм быў выдалены ў жніўні праз прадзюсара. У першы 3 дні — 65 тысяч праглядаў, можна лічыць.

Трэйлер у месяц выхаду паглядзелі 101 тысяча на «YouTube», 22 тысячы — польскі варыянт, «ВКонтакте» — 43 тысячы. Калі яшчэ лічыць як трэйлер «Краіны няма» і «відэа пра выбарчую камісію», дык + 86 790 тысяч.

***Які бюджэт фільма?***

*Андрэй Курэйчык:*

— На ўвесь праект каля 400 тысяч долараў ЗША. ПРААН трымае бюджэт у сакрэце.



*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— 5,5 мільёна злотых (больш за 1 мільёна 750 тысяч долараў).

***Якія асноўныя ўзнагароды фільма (у Беларусі, за мяжой)?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Фільм афіцыйна забаронены, таму ўдзел яго ў фестывалях вельмі ўскладнены. На сённяшні дзень гэта фестывалі ў Нью-Ёрку (афіцыйная прэм'ера), Катавіцэ, Варшаве, Ерэване, прэміі «Знята» ў Маскве. Фестывалі мы не анансуем, таму што нам зрываюць паказы, калі даведаюцца пра іх загадзя. Прэміі: «Лепшы беларускі прадзюсарскі дэбют», Прэмія асацыяцыі незалежных прадзюсераў Расіі «Знята» і іншыя.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Узнагарода за сцэнар на МФФ у Брусэлі, Troia Festiwal у Сетубале (Партугалія), Febiofest у Празе (Чэхія), 38-ы Фестываль Польскіх мастацкіх фільмаў у Гдыні (секцыя «Панарама польскага кіно»), III МФФ «Злачынства і пакаранне» ў Стамбуле, на кінафестывалі ў Вене, Кіеве, на фестывалі польскага кіно ў Сіднеі, Чыкага і іншыя. «Жыве Беларусь!» атрымаў «Залатую шаблю» на міжнародным кінафестывалі вайсковых і гістарычных фільмаў.

***Колькі было запрошана (замежных) акцёраў у фільме?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Мы прынцыпова ні ў групу, ні ў акцёрскія склад не запрашалі замежнікаў. Гэты фільм рабілі толькі беларусы.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Тры польскіх актора, тры расейцы і два ўкраінцы ў эпізодах. Беларускіх акцёраў 80 працэнтаў.

***Хто аўтары музыкі, выкарыстанай у фільме?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Дзмітрый Фрыгіі, «Ляпіс Трубяцкой», «Акутэ», Вінцэнт.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Лявон Вольскі, яго песні і інструментальныя аранжыроўкі.

***Ці ўжываліся спецэфекты?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Не.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Мультыплікацыі і падкладанне натоўпу пад фон, зняты ў Мінску.

***Якія былі водгукі крытыкаў?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Шмат добрых. Але я іх не збіраю. Няма такой звычкі яшчэ з часоў тэатральнай маёй дзейнасці.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Ва ўсіх СМІ выдатныя рэцэнзіі атрымаў за адыгранне сваёй ролі Вінцэнт.

«PRZEKRÓJ»: «Гатовы праставіцца гарэлкай, што мы — сведкі нараджэння культавага кіно для беларусаў. Тым больш, нават без сенсацыйнай абалонкі, якая суправаджала паўстанне гэтага твору (выканаўца галоўнай ролі стаўся палітычным уцекачом, іншыя акторы таксама зазналі рэпрэсіі і г.д.), «Жыве...» стаўся ўніверсальным апавяданнем пра барацьбу адзінкі з сістэмай, яе жудасцямі і абсурдамі, бясспрэчна, усё ж такі смешнымі. Менавіта гэтыя ўзмоцненыя выдатным музычным суправаджэннем бунтарская энергія і ідэалізм, якімі прасякнуты ўвесь фільм, ёсць у ім найбольш цікавыя і найбольш узрушальныя».

«DZIENNIK. GAZETA PRAWNA»: Кшыштаф Лукашэвіч пазбягае пафаснага апавядання аб вольнасці, якое так любяць палякі. Без прыкрыцця паказвае бязлітасна-сць рэжыму Лукашэнкі, беднасць і шэрасць беларускай штодзённасці і крывавую барацьбу, якая зноў і зноў падаецца забойчай працай Сізіфа. Не дае таксама простых адказаў і надзей.

***Як прыняў замежны глядач?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Для іх было адкрыццё, што ў Беларусі існуе незалежнае актуальнае кіно.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— «Кранальна, шакуюча, неверагодна, што такія рэчы адбываюцца з маладымі людзьмі ў цэнтры сучаснай Еўропы», — вось такія ацэнкі.

***Ці акупіўся фільм?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Камерцыйнага складніку ў праекце не было. Па ўмовах гранта — фільм распаўсюджвае-цца бясплатна (фільм фінансаваўся грантам ПРААН).

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Не, фільм не акупіўся і не прынёс прыбытку, па меншай меры фінансавага. У Польшчы, за рэдкім выключэннем, прыбытак прыносяць толькі рамантычныя камедыі са шматлікімі зоркамі.

***Ці лічыце свой фільм «палітычным»?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Не, фільм не палітычны, але актуальны.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Фільм распавядае пра лёсы людзей у краіне ў цэнтры Еўропы, улада якой паўсюль лічыцца аўтарытарнай, таму ён павінен быць прызнаны палітычным.

***Ці падвяргаўся фільм цэнзуры?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Серыяльная версія «Вышэй за неба» была падвергнутая татальнай цэнзуры. Было выразана больш за 50 сцэн, фрагментаў або персанажаў. Цэнзура была з боку ПРААН.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Цэнзуры не было, у Польшчы пасля падзення камунізму няма цэнзуры.

***Назавіце перавагі фільма***

*Андрэй Курэйчык:*

— Гэта сумленнае кіно пра Беларусь, зробленае выключна беларусамі і выключна для беларусаў.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Не хачу даваць суб'ектыўныя ацэнкі, няхай гэта зробяць гледачы.

***Ваш фільм мае на мэце салідарызаваць ці падзяліць беларускае грамадства?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Яго задача — сумленна паказаць беларускую нацыю ва ўсіх яе пакаленнях на дадзеным этапе гістарычнага развіцця.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Фільм мае паказаць беларусам, што барацьба за асноўныя грамадзянскія свабоды і нацыянальную ідэнтычнасць можа быць эфектыўнай без вялікіх рэвалюцый, але метадам «маленькіх крокаў».

***Ці лічыце вы свой фільм беларускім?***

*Андрэй Курэйчык:*

— Так, безумоўна.

*Кшыштаф Лукашэвіч:*

— Гэта беларускі фільм польскай вытворчасці, зроблены польскімі стваральнікамі і беларускімі творцамі пра незалежныя погляды.

Але вернемся да «Мы, браты...». Фільм — драма, да стварэння якой былі прыцягнуты спецыялісты з ЗША, Германіі, Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Аўстраліі, Катару, Латвіі і Ізраіля, як сцвярджаюць яе стваральнікі. Карціна расказвае пра гісторыю двух братоў, кожнаму з якіх трэба зрабіць складаны маральны выбар. Беларуская кінакампанія «Nonstop MEDIA» стала першай, якой удалося ажыццявіць маштабныя здымкі на тэрыторыі самага вялікага ў свеце кінавытворцы Universal Studios Hollywood.

Вядомы беларускі мем #чтонетак пайшоў у народ менавіта са здымачнай пляцоўкі фільма.

Сустрэнемся на паказах. Папросту дзеля таго, каб мець уласнае меркаванне пра тое, што адбываецца з краінай, у якой мы жывем, — і ў жыцці, і на экране, і ў думках, і на вуліцах. Пільнага прагляду, спадарства!

**Дапамога ў перакладзе з польскай — Таццяна Канаш.**

# «Багач» у Вязынцы: Купалу б спадабалася!

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Ужо трэці раз запар Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы становіцца цэнтрам правядзення ўнікальнай этнаграфічнай дзеі. Тут з ініцыятывы Студэнцкага этнаграфічнага таварыства (СЭТ) ладзіцца старажытнае беларускага свята восеньскага раўнадзенства Багач (ці Багатнік, Багатуха, Гаспожка).**

Трэба адзначыць, што Багач супадае з царкоўнымі святамі Малая Прачыстая, Другая Прачыстая, Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы. Гэтае старажытнае свята вянчала ўборку зерневых, завяршэнне палявых работ. У некаторых раёнах свята альбо сумежныя з ім дні лічыліся пачаткам восені.

Ну а пра вытокі Багача найбольш дакладна выказаўся Адам Ягоравіч Багдановіч у сваёй працы «Перажыткі старажытнага светасузірання беларусаў» (1895): «Ёсць факты, якія прымушаюць думаць, што «багач» — адно з земляробчых бостваў дахрысціянскага перыяду, адно са змяненняў нестараўскага Даждж-бога сонца, бога дабрабыту, багацця, пра якое і гаворыць і само яго імя... Галоўную ролю ў абрадзе выконвае «багач» ці «багацце». Гэта «лубка» іржы з устаўленай у яе васковай свечкай. «Багач» стаіць на працягу цэлага года ў хаце гаспадара ў ганаровым куце пад іконамі...» Сучасныя ж этнографы падкрэсліваюць, што, згодна з павер'ем нашага народа, Багач забяспечваў сям'і добры ўраджай і шчасце. На Багач руплівы гаспадар да ўсходу сонца засяваў поле асвечаным жытам: «Прыйшоў Багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку».

Ініцыятары адраджэння і святкавання Багача — сябры Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, дарэчы, акрэдытаванага пры ЮНЭСКА ў якасці калектыўнага эксперта па нематэрыяльнай культурнай спадчыне, прадставілі разнастайную праграму сёлетняга «Багача». Па-першае, святкаванне распачалося ў сталічным клубе «РЕ:ПАБЛІК», дзе студэнты ў гарадскіх умовах аднавілі гэты земляробчы абрад. Ну а станоўчыя ўражанні ад убачанага былі падмацаваныя сучаснымі і сярэднявечнымі фолк-рытмамі гуртоў «Стары Ольса», «Рокаш» і «Irdorath».

Больш аўтэнтычная, насычаная інфармацыяй і відовішчамі праграма чакала аматараў айчыннага фальклору ў Вязынцы, на жывапіснай тэрыторыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, менавіта тут разгортваліся асноўныя падзеі святкавання «Багача». Сапраўды, дождж унёс свае карэктывы ў яго праграму. Планавалася, што на цэнтральнай плошчы дажынкавыя песні заспяваюць фальклорныя калектывы «Горыцьь», «Варган», «Дайнова», «Мярэжа», «Рутвіца». Але арганізатары, у адпаведнасці з канцэпцыяй свята «выканаўцы і слухачы — адно цэлае», прапанавалі стварыць зводны фальклорны гурт для ўсіх жадаючых заспяваць. Менавіта гэты галасісты калектыў і распачаў «Багач–2015».


Зярнятка да зярнятка

Сябры СЭТ пад цудоўныя народныя спевы аднавілі абрад: у плецены з лазы кошык з ільняных мяшочкаў ссыпалі падрыхтаванае зерне з мэтай замацаваць у ім васковую свечку-Багач, выраблeную яшчэ ў мінулым годзе. Гэтая простая, на першы погляд, дзея суправаджалася і частаваннем тых, хто прывёз з сабою пшаніцу ці жыта. Пачастунак быў знатным: луста хатняга свежавыпечанага хлеба з мёдам сёлетняга збору. Сапраўды, гіт на ўсе часы!

На тэрыторыі музея адноўлена некалькі аўтэнтычных вясковых хат. Пасля ўсталявання Багача, у адной з іх распачалася танцавальная вечарына. Тут рэй вялі танцоры і музыканты клуба традыцыйнага танца «Сіта». І хоць памяшканне не ўмяшчала ўсіх жадаючых пусціцца ў скокі, танцоры і ўсе ахвочыя дэманстравалі свой імпэт і ўменне на чарзе: «Полечку» змянялі «Грачанікі», «Падыспань», астатнія пускаліся ў скокі пад рытмы «Карапета».

Вялікую цікаўнасць выклікала і тэарэтычная частка святкавання. Нагадаю, што Студэнцкае этнаграфічнае таварыства надае шмат увагі даследніцкай і экспедыцыйнай дзейнасці, яго ўдзельнікі публікуюць вынікі сваіх пошукаў у рэспубліканскай прэсе і на інтэрнэт-старонках, прысвечаных беларускаму фальклору і этнаграфіі. Адзін з такіх маладых даследчыкаў беларускай міфалогіі і паганства, гісторык Зміцер Скварчэўскі прачытаў наведвальнікам музея лекцыю «Святы восеньскага раўнадзенства ў беларускім народным календары», у якім распавёў пра вытокі Багача, яго паганскія карані і этнаграфічныя асаблівасці, патлумачыў вытокі розначытання дакладнай даты восеньскага раўнадзенства. Лекцыя дазволіла больш поўна асэнсаваць структуру беларускага народнага календара і месца ў ім свята Багач.

Працягам лекцыі стаў захапляльны для гарадскіх жыхароў практыкум па вырабу з воску «Свечкі на Багач». Сапраўды, адны з прысутных трымалі вяровачную аснову свечкі — кнот, іншыя ж разміналі ў руках воск, каб ён станавіўся мяккім і падатлівым, астатнія — прымацоўвалі воск да кноту. Паколькі ў практыкуме пажадалі ўдзельнічаць занадта шмат маладых людзей, без належнай арганізаванасці і каардынацыі, увесь практыкум мог звесціся да агульнага вэрхалу. Але яго вядоўца — Зміцер Скварчэўскі — тактоўна нагадваў пра тэхналагічныя асаблівасці вырабу свечкі, пра верагодныя памылкі і недакладнасці, каардынаваў увесь творчы працэс. У выніку калектыўных намаганняў, пад агульныя задаволены апладысменты, была выраблена свечка-Багач на наступны год!

Гэтая сімвалічная падзея ўзняла настрой і іншым удзельнікам святкавання, якія наладзілі танцы пад аркестрык на сядзібе музея. Там жа ў выкананні спявачак гучалі народныя песні абрадавага і каляндарнага цыклаў, а завяршылася вакальная частка свята спаборніцтвам выканаўцаў (як хлапцоў, так і дзяўчат) па народных і аўтарскіх прыпеўках.

Станоўчы эмацыянальны стан усіх прысутных на святце спрыяў таму, што дажджавыя хмары збольшага рассеяліся і вызірнула ласкавае восеньскае сонейка. Яшчэ адна прычына, каб наведацца і палюбавацца маляўнічымі купалаўскімі мясцінамі, пазнаёміцца з абноўленай экспазіцыяй Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, асэнсаваць убачанае і памарыць пра тое, як прыехаць у Вязынку на Багач наступным годам.

# «Navi» — пераможца «Заспявай 2.0»

Павел АКСІНОВІЧ

**Закончыўся другі сезон музычнага конкурсу «Заспявай», які праводзіць партал «Тузін хітоў». Аргкамітэт конкурсу вызначыў уладальніка Гран-Пры, двух лаўрэатаў, а таксама адзначыў спецыяльнымі ўзнагародамі яшчэ трох выканаўцаў. Узнагароджванне пераможцаў прайшло 28 верасня ў кнігарні «ЛогвінаЎ».**




Конкурс «Заспявай 2.0» стартаваў сёлета ўвесну. Маладым выканаўцам (да 27 гадоў) прапаноўвалася паўдзельнічаць у дзвюх намінацыях — «Спяваная паэзія» і «Кавер». Усяго было пададзена 50 заяваў: 23 — на «Кавер», 34 — на «Паэзію». Некаторыя выканаўцы бралі ўдзел адразу ў абедзвюх намінацыях.

Журы, у якое ўвайшлі Ігар Варашкевіч, Валеры Дайнека, Алег Хаменка, Адам Глобус, Віталь Рыжкоў, Максім Жбанкоў, Тацяна Заміроўская, Павал Бераговіч, Ніна Шыдлоўская і Сяргей Будкін, вызначыла па шэсць фіналістаў у кожнай з намінацыяў. Пераможцы атрымалі магчымасць выступіць пры падтрымцы вядомых беларускіх гуртоў.

Цягам амаль усяго лета ў дворыку на плошчы Свабоды, 4, на тэрасе кавярні «Chill Out» праходзіла серыя з 12 канцэртаў.

«Pauline» ўзнагародзілі за песню «Малітва» на верш Янкі Купалы ў намінацыі «Спяваная паэзія».

Аргамітэт конкурсу адзначыў украінскі гурт «Колір» за песню «Застацца сабой» на верш Андрэя Аляксандрава ў намінацыі «Спяваная паэзія».

«K3tyvana» былі адзначаны за песню «Skyfall» брытанскай спявачкі Adele у перакладзе на беларускую мову ў намінацыі «Кавер».

Лаўрэатам конкурсу «Заспявай 2.0» стаў Яўген Цярэнцьеў (гурт «Teleport») за песню «Зачараваная» ансамблю «Песняры» (словы Генадзя Бураўкіна, музыка Ігара Лучанка). Выканаўца атрымаў грашовую ўзнагароду ў 250 еўра.

Лаўрэаткай конкурсу «Заспявай 2.0» стала Марына Вярэніч за песню «Чаму мы стрэліся няўчас» на верш Тацціны Дзям'янавай у намінацыі «Спяваная паэзія». Спявачка атрымала грашовую ўзнагароду ў памеры 250 еўра.

Гран-Пры конкурсу «Заспявай 2.0» забраў гурт «Navi» за песню «Плакалі ветры» на словы Паўлюка Труса ў намінацыі «Спяваная паэзія» і за песню «Жар-птушка» ансамблю «Сябры» (словы Генадзя Бураўкіна, музыка Эдуарда Ханка) ў намінацыі «Кавер».

Музыкі атрымалі грашовую ўзнагароду ў памеры 500 еўра.

Пасля цырымоніі ўзнагароджвання музыкі далі невялікі імправізаваны канцэрт.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1267

Падпісана да друку 02. 10.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.